ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 39 (2618)
ПЯТНІЦА
29
верасня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



50 год утварэння СССР

Літоўская казка завітала на беларускую сцэну. У год, калі ўсе мы жывём пад знакам надыходзячага 50-годдзя ўтварэння СССР, гэты звычайны ў тэатральнай практыцы факт набывае гучанне знамянальнае. Тым больш, што казку паэтэсы Віялеты Пальчынскайтэ «Я спяшаюся за сонцам» у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі паставілі, афармілі дэкарацыямі і музыкай, упрыгожылі танцамі і пантамімай нашы сябры з Вільнюса.

На здымку Ю. Іванова вы бачыце аўтара казкі В. Пальчынскайтэ, рэжысёра Аўрэлію Рагаўскайтэ і харэографа Чэслава Жабраўскаса сярод удзельнікаў прэм'еры.

# ПЯСНЯР ШЧАСЦЯ НАРОДНАГА

*ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ 90-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ*

Паэзію Янкі Купалы ведаюць ва ўсіх кутках нашай краіны. Яго вершы гучаць на рускай і ўкраінскай, грузінскай і літоўскай, на многіх і многіх мовах народаў СССР. Таму 90-годдзе з дня нараджэння выдатнага сына Беларусі стала святам усёй нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

На ўрачысты вечар, прысвечаны народнаму паэту Беларусі, 27 верасня ў Калонную залу Дома саюзаў прыйшлі пісьменнікі сталіцы, рабочыя маскоўскіх прадпрыемстваў, шматлікія прыхільнікі светлага таленту Янкі Купалы. У прэзідыуме сходу — вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, вучоныя, пасланцы брацкіх рэспублік, прадстаўнікі грамадскасці. Прысутныя цёпла сустрэлі дэлегацыю саюза пісьменнікаў Беларусі на чале з Максімам Танкам.

Ад імя Саюза пісьменнікаў СССР, Саюза пісьменнікаў і Міністэрства культуры Беларусі вечар адкрыў уступным словам Герой Сацыялістычнай Працы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР М. С. Ціханаў.

— Уся наша краіна, — сказаў ён, — рыхтуецца да пяцідзесяцігоддзя ўтварэння СССР. Напярэдадні гэтага слаўнага юбілею сярод выдатных імён мы з гордасцю называем імя Янкі Купалы, які сваёй паэзіяй унёс велізарны ўклад у духоўнае жыццё беларускага народа, прайшоўшы з ім увесь доўгі шлях барацьбы за чалавека сацыялістычнага свету.

Янака Купала — заснавальнік новай беларускай літаратуры, разам з Якубам Коласам па сіле свайго таленту з'яўляецца выразнікам найглыбейшых народных дум, заслужана носіць званне народнага паэта Беларусі.

Ён чуў з дзяцінства і захоўваў у памяці народнае павер'е: калі ў ноч пад Івана Купалу знойдзеш казачную кветку папараці — знойдзеш сваё шчасце... Але, як пісаў пазней Янка Купала, не ў чэрвеньскую ноч расцвіла чарадзейная папараць, яна пачала цвісці ў Кастрычніцкія дні. І калі на зямлю беларусі прыйшло новае жыццё, калі родны народ набыў сваё шчасце, паэт усклікнуў: «Цвіце, каласіцца мой край».

Ужо не «Песні беззямельнага», а вершы, прысвечаныя новай сацыялістычнай рэчаіснасці, склаў выдатны сын Беларусі. У творах Янкі Купалы знайшлі адлюстраванне і магутнасць прыроды, і прыгажосць беларускіх лясоў, і асаблівае хараство добрага, дужага, вялікага чалавека. Яго адкрыты смех, яго гумар, яго шырокі запеў кранаЛі самыя патаемныя рухі душы.

Паэт раскрыў нам у сваіх творах беларускія зялёныя прасторы, і мы зведваем пачуццё гордасці і сардэчнага хвалявання. За гэтыя прасторы, за беларускі народ. Чытаючы Янку Купалу, мы не можам вызваліцца ад уражання, што знаходзімся сярод працаўнікоў, герояў, песняроў, сярод такіх добрых, таленавітых, смелых, бясстрашных людзей, якія ўпрыгожваюць зямлю. І няма скрамнейшых і больш цудоўных, чым гэтыя мірныя аратыя і ўмельцы, у чыіх жылах цячэ кроў волатаў, непераможных у бітве за незалежнасць і свабоду.

І не бяднее мастакамі слова зямля вялікага Савецкага Саюза. Але якой бы ні была яна багатай сваімі нацыянальнымі паэтамі, сярод самых таленавітых і значных заўсёды будзе чуваць асаблівы і непаўторны голас бессмяротнага Янкі Купалы. Да яго творчасці, яго песень маладосць нязменна стане звяртацца як да крыніцы невычэрпнага натхнення, багатай сваёй народнай крынічнай свежасцю.

Янка Купала назаўсёды застанецца сярод тых, хто стаў выразнікам запаветных дум народа. Да любімцаў народа, да яго першых і лепшых паэтаў належыць Янка Купала. Належыць па праву, па лёсу, па ўзаемнай вялікай любві.

Янка Купала ўсё жыццё захоўваў вялікую і чыстую любоў да вялікага рускага народа, да яго вялікіх тварцоў літаратуры. Асаблівую ўдзячнасць і любоў адчуваў ён да Максіма Горкага, які першым сказаў аб ім добрае слова, адзначыў яго паэтычны талент, сам пераклаў яго верш пра беларусаў — «А хто там ідзе?»

Янка Купала быў не толькі выдатным паэтам. Ён быў выдатным грамадскім дзеячом і вучоным. Таму многія, многія гады будуць жыць імя Янкі Купалы і яго вялікая і мудрая паэзія.

«Слова пра Янку Купалу» сказаў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Максім Танк.

— Янка Купала разам са сваім сябрам Якубам Коласам сталі заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры, — сказаў прамоўца. — Час, калі паэт з'явіўся на свет, не быў, як вядома, спрыяльным ні для жыцця, ні для песень. Тым не менш, мы можам сцвярджаць, што прыход Купалы ў літаратуру быў і застаецца з'явай, перад якой мы і сёння спыняемся ў захапленні і здзіўленні. Ён нале-

## 1 КАСТРЫЧНІКА — ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА





**Дзве настаўніцы. Абедзве са 121-й школы Мінска. Зінаіда Іванаўна Ермаліцкая і Вольга Васільеўна Лазанская. У адной за плячыма вялікае педагагічнае жыццё — дваццаць гадоў, другая сёлета ўпершыню пераступіла парог СВАЙГО першага класа.**

**Першыя ўрокі — нібыта ўзыходжанне на гару: перахоплівае дыханне, кружыцца галава, і здаецца, што не дойдзеш. Але ў бясстрашных і ўпартых адкрываецца другое дыханне, і яны дасягаюць вяршыні. Праўда, гэта толькі адна з вяршынь, таму што за ёю другая, якую таксама трэба ўзяць...**

**Зінаіда Іванаўна ўжо валодае тым вышэйшым педагагічным «пілатажам», які патрэбен настаўніку, каб даць сваім вучням глыбокія веды і выхаваць высокія маральныя прынцыпы. Але гэта няпраўда, што цяжка толькі спачатку. І спачатку, і потым ты нясеш бясконца вялікую адказнасць за ўсіх і за кожнага. Ад цябе ў многім залежыць, кім стане маленькі чалавек, які прыйшоў да цябе ў клас. У кожным закладзена так многа. Абавязак настаўніка — знайсці самае галоўнае, развіць яго, зрабіць з дзіцяці асобу. Вучыць — гэта значыць аддаваць, а для гэтага трэба мець шырокі кругагляд, багатую душу, шчырасць і шчодрасць.**

**Зінаіда Іванаўна і Вольга Васільеўна — людзі розных пакаленняў, і лёс іх, напэўна, розны, бо не бывае двух аднолькавых лёсаў. Але ёсць у іх і агульнае — неспакой, гарэнне, прага да самаўдасканалення. Усё тое, што ўласціва чалавеку, прызванне якога — настаўнік.**

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

## АЎДЫТОРЫЯ — СОТНІ ТЫСЯЧ СЛУХАЧОЎ

*ПАЧЫНАЕЦЦА НАВУЧАЛЬНЫ ГОД У НАРОДНЫХ УНІВЕРСІТЭТАХ*

Уявіце сабе аўдыторыю ў 330 тысяч слухачоў. Фантастычна! Гэтая аўдыторыя — 1.733 народныя універсітэты і больш за 1.000 іх філіялаў. Універсітэты самых розных профіляў — грамадска-палітычныя, тэхнічна-эканамічныя, прававыя, сельскагаспадарчыя, прыродазнаўча-навуковыя, педагагічных ведаў і інш. Сярод іх — 175 універсітэтаў культуры з 28 філіяламі, якія наведвае 35 тысяч слухачоў.

Старшы рэферэнт праўлення рэспубліканскага таварыства «Веды» Л. Грыцкевіч расказала нашаму карэспандэнту:

— За апошнія гады ў рэспубліцы зроблена нямала, каб упарадкаваць сетку народных універсітэтаў. Па першым часе іх было вельмі многа. У большасці сваёй гэта былі карлікавыя універсітэты, якія ядналі вакол сябе невялікую колькасць слухачоў ды і матэрыяльную базу мелі слабую. Жыццё падказала, што ў раённых цэнтрах і гарадах рэспублікі неабходна ствараць так званыя галаўныя народныя універсітэты з філіяламі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Раней у Бабруйску, напрыклад, працавала шэсць універсітэтаў культуры, але ніводзін з іх не мог пахваліцца сваёй работай. Стварылі адзін гарадскі універсітэт культуры з двума факультэтамі — музычнага і тэатральнага мастацтваў, і справа пайшла на лад: лягчэй стала з лектарамі, іх сілы не распыляліся больш, умацоўвалася і матэрыяльная база. Ажывілася работа і яго філіялаў на швейнай фабрыцы і на фанера-дрэваапрацоўчым камбінаце.

Шырокае распаўсюджанне ў рэспубліцы набылі універсітэты грамадска-палітычнага профілю і ў першую чаргу універсітэты, на занятках якіх вывучаюцца рашэнні XXIV з'езда КПСС.

Поспех кожнага універсітэта культуры залежыць ад устанаўлення больш цесных і пастаянных кантактаў з творчымі саюзамі, тэатрамі, канцэртнымі арганізацыямі, музычнымі навучальнымі ўстановамі, народнымі самадзейнымі калектывамі.

Да новага навучальнага года канцэртна-лекцыйнае бюро Беларускай дзяржаўнай філармоніі распрацавала новыя цыклы лекцый для універсітэтаў музычных ведаў, цыкл лекцый для агульна-адукацыйных школ і выхаванцаў прафтэхвучылішчаў і тэхнікумаў. Заслугоўвае ўвагі лекторый, прысвечаны беларускаму музычнаму мастацтву.

Бюро прапаганды кінамастацтва таксама прапануе аматарам кіно цыклы лекцый, прысвечаных 50-годдзю ўтварэння СССР, развіццю савецкага кінамастацтва і кінамастацтва братніх рэспублік.

Вопыт мінулых гадоў паказвае, што і саюзы кампазітараў, пісьменнікаў, мастакоў, Беларускае тэатральнае аб'яднанне, Дзяржаўны мастацкі музей БССР ахвотна адгукаюцца на просьбы універсітэтаў арганізаваць лекцыю або выступленне дзеячоў мастацтва і літаратуры. Але хацелася б, каб гэтая работа вялася пастаянна, не насіла эпізадычны характар. У гэтым сэнсе заслугоўвае пераймання вопыт універсітэта тэатральнага мастацтва, які працуе ў Віцебску на базе тэатра імя Якуба Коласа. Кіраўніцтва тэатра, яго партыйная, прафсаюзная і камсамольская арганізацыі лічаць сваім пачэсным абавязкам клапаціцца аб рабоце універсітэта. Заняткі ў ім праходзяць цікава. Перад слухачамі выступаюць майстры сцэны, творчая моладзь. Слухачы універсітэта прысутнічаюць на рэпетыцыях і прэм'ерах, удзельнічаюць у абмеркаванні новых спектакляў. Тэатр імя Якуба Коласа дапамог арганізаваць універсітэт тэатральнага мастацтва пры Наваполацкім палацы культуры нафтавікоў. Вялікія афішы расказваюць пра план яго заняткаў, запрашаюць набываць абанементы.

У Гродна таксама распачынае работу універсітэт тэатральнага мастацтва. У яго праграме 14 лекцый — 14 сустрэч з творчымі работнікамі абласнога тэатра.

Савет садзеяння народным універсітэтам пры Міністэрстве культуры БССР перагледзеў вучэбна-тэматычныя планы па беларускай літаратуры, музыцы, тэатру, кіно і выяўленчым мастацтве. Яны здадзены ў друк і хутка выйдуць у свет. Неабходна, каб органы культуры таксама больш зацікаўлена ставіліся да работы сваіх універсітэтаў, каб яны клапаціліся аб іх матэрыяльнай базе, цікавіліся зместам і формай заняткаў.

Пачынаецца новы навучальны год у народных універсітэтах. Многае залежыць ад першай сустрэчы з слухачамі. Трэба зрабіць усё магчымае, каб шырокая сетка народных універсітэтаў рэспублікі працавала бездакорна, каб слухачы пакідалі заняткі, узбагачаныя ведамі, акрыленыя сустрэчай з вялікім светам мастацтва. Нам трэба штодзённа павышаць ролю народных універсітэтаў у камуністычным выхаванні працоўных.

жыць да таго сузор'я сусветных паэтаў, якія былі ўладарамі душ. Паэзія Купалы адыграла велізарную ролю ў фарміраванні нацыянальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай свядомасці беларускага народа, з жыццём якога непарыўна ён быў звязан усімі струнамі сваёй душы. І гэта давала яму права гаварыць ад імя народа.

Значэнне Купалы і Коласа велізарнае яшчэ і таму, што яны вывелі беларускую літаратуру з глухамані палявых дарог на шырокі шлях рэвалюцыі, якая залпам «Аўроры» абвясціла народам Расіі і ўсяму свету аб доўгачаканай свабодзе.

Купалу і Коласа мы называем заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры. І сапраўды няма такой галіны мастацкай творчасці, у якой бы яны не пакінулі нам сваіх непараўнальных прыкладаў — паэзія, драматургія, проза, сатыра і палымяная публіцыстыка гадоў Айчыннай вайны, якая была на ўзбраенні нашага народа ў яго барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў.

Сёння мы заканамерна гаворым аб узаемаўплыве і ўзаемаўзбагачэнні нашых брацкіх літаратур. Творчасць Купалы з'яўляецца яркім прыкладам гэтаму. Яна развівалася, убіраючы ў сябе жывую плынь шматлікіх крыніц: ад народных песень да твораў сусветнай класікі, да паэзіі сучаснікаў. Яго прыцягвала сваёй дэмакратычнасцю, чалавекалюбствам, нястомнымі пошукамі праўды і справядлівасці вялікая руская літаратура — Пушкін, Крылоў, Някрасаў, Кальцоў, Горкі; ён з любоўю адносіўся да блізкай яму па пачуццях і думках украінскай літаратуры, асабліва да творчасці вялікага Кабзара; ён дасканала ведаў польскую літаратуру.

Сёння беларуская літаратура выйшла далёка за межы сваёй рэспублікі, далёка за межы нашай Савецкай краіны. І ў гэтым вялікая заслуга Купалы і Коласа.

На «пераклічцы» ў гонар вялікага свята нашай дзяржавы, непарушнай ленінскай дружбы народаў, сярод імён людзей, якія прыналежны сваёй працай, гераізмам да перамогі ідэй камунізма, мы называем і імя Янкі Купалы. Ён не толькі стварыў вялікую паэзію аб нашым часе, але і пакінуў вечную прагу да паэзіі слаўных подзвігаў, стваральнай працы нашага народа.

Аб вечным значэнні творчасці Янкі Купалы гаварылі ў гэты вечар украінец Мікола Бажан, літовец Эўгеніюс Матузявічус, грузін Хута Берулава, ад пісьменніцкай арганізацыі Татарыі — Рэнат Харысаў, руская паэтэса Марыя Камісарава чытала вершы, прысвечаныя Янку Купалу.

Іх словы ў гонар сына Беларусі гучалі як гімн дружбе і брацтву савецкіх народаў.

Завяршыўся вечар вялікім святочным канцэртам майстроў мастацтваў Беларусі.

**П. КАСАЛАПАЎ,**
**кар. ТАСС.**

# ПЕРШЫ МАЛАДЗЁЖНЫ

Цэнтральны Камітэт Ленінскага Камуністычнага Саюза моладзі Беларусі, калегія Міністэрства культуры БССР, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, праўленне Саюза пісьменнікаў БССР прынялі пастанову аб штогадовым правядзенні з 16 па 23 кастрычніка «Тыдня маладзёжнай кнігі».

Сёлета ён будзе праведзены ў Мінску, у наступныя гады — пачаргова ва ўсіх абласных цэнтрах. Асаблівая ўвага ў дні тыдня будзе звернута на распаўсюджанне сярод моладзі літаратуры па розных пытаннях.

Абкомам камсамола, абласным упраўленням культуры, абласным упраўленням па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю прапанавана шырока прыцягваць для падрыхтоўкі і правядзення «Тыдня маладзёжнай кнігі» работнікаў выдавецтваў, бібліятэчных калектараў і бібліятэк, кніжнага гандлю, клубаў і дамоў культуры, творчых арганізацый.

Для ўдзелу ў «Тыдні маладзёжнай кнігі» запрашаюцца пісьменнікі, мастакі, журналісты, вучоныя, ветэраны рэвалюцыйнага руху, праслаўленыя камсамольцы, Героі Савецкага Саюза, Героі Сацыялістычнай Працы, перадавікі прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

**Л. КІСЯЛЁЎ.**

# АЛЬБОМ ДОБРЫХ СПРАЎ

**1 лютага 1972 года Упраўленнем культуры Магілёўскага аблвыканкома і Магілёўскай абласной бібліятэкай імя У. І. Леніна быў дадзены старт эстафеце «Альбом добрых спраў», прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР.**

**У жніўні эстафета фінішыравала. На старонках «Альбома» знайшоў адлюстраванне шэраг карысных мерапрыемстваў, праведзеных бібліятэкамі вобласці.**

**Так, Быхаўская раённая бібліятэка сумесна з раённым домам культуры правяла вечар дружбы беларускага і ўкраінскага народаў «Рэспублікі-сёстры».**

**На старонках альбома, адведзеных Слаўгарадскаму раёну, пакінуты такі запіс: «Гордасць Ржаўскай сельскай бібліятэкі — 1540 кніг з аўтографамі. Сярод іх «Успаміны пра Леніна» Л. А. Фоціевай, «Расказы аб жыцці» К. Я. Варашылава, кнігі з аўтографамі маршалаў Савецкага Саюза Г. К. Жукава, Р. Я. Маліноўскага, А. І. Яроменкі, касманаўтаў Ю. Гагарына, Г. Цітова, В. Нікалаевай-Церашковай, В. Быкоўскага...»**

**Чавуская раённая бібліятэка паведамляе аб правядзенні канферэнцыі чытачоў па кнізе Яўгена Вараб'ёва «Зямля, да запатрабавання», якая расказвае пра славутага разведчыка, ураджэнца горада Чавусы, Героя Савецкага Саюза Льва Яфімавіча Маневіча.**

**Горацкая раённая бібліятэка ў дні эстафеты правяла 160 канферэнцый чытачоў, арганізавала 113 сустрэч са знатнымі людзьмі.**

**Многа добрых спраў у актыве і іншых бібліятэк вобласці.**

**В. САКАЛОЎСКІ.**

*НАШ СУЧАСНІК*

# ГРАНІ РАБОЧАГА ХАРАКТАРУ



Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

Пра Валянціна Іванавіча Ганчарова мне давялося ўпершыню пачуць некалькі гадоў назад. Мой школьны сябра Жора Кашлач, які працуе там жа, на аўтамабільным, неяк сказаў:

— Напісаў бы ты пра нашага Валянціна. Ёсць у нас такі цудоўны хлопец, брыгадзірам слесараў і зваршчыкаў працуе.— І дадаў:— Шмат у чым ён мне дапамог, а ты ж ведаеш, як жыццё складвалася...

Так, сапраўды, Жора пасля сямігодкі далей вучыцца не стаў, пачаў лайдачыць, звязаўся з нейкімі бэйбусамі, кінуў работу. Словам, як кажуць, каціўся з гары. Я доўга не меў пра яго ніякіх звестак. І вось мы аднойчы сустрэліся ў Жодзіна.

— Працую на аўтамабільным прасаўшчыкам, дзесяцігодку заканчваю. У партыю збіраюся паступаць.

Жора задумаўся.

— Не ведаю, чым бы ўсё скончылася, калі б не Валянцін. — Пасля сустрэчы з ім паглядзеў я на сябе збоку, задумаўся... А калі чалавек задумваецца — гэта ўжо многа... Вось як, брат.

У другі раз я пачуў пра Валянціна Ганчарова ад супрацоўніка шматтыражнай газеты «Белорусский автозаводец» Уладзіміра Гайнуліна.

— Калі пра каго і пісаць, дык пра Валянціна Ганчарова, — безапеляцыйна заявіў ён. І расказаў, што Валянцін Ганчароў прыйшоў на аўтазавод адразу пасля службы на флоце. Навічок быў ладны, высокі... Яго залічылі ў брыгаду падсобнікаў. Некалькі дзён «назіраў», як хлопцы «адбывалі» дзень і, нарэшце, не вытрымаў: «Так далей справа не пойдзе! Досыць лайдачыць!» «А што нам больш за ўсіх трэба?— адпарыраваў хтосьці з мальцоў. — Табе падабаецца «ўкалваць» за 50 рублёў, дык на здароўе». «І я, і ты ведалі, куды ішлі,—спакойна адказаў Валянцін, — і павінны працаваць сумленна». Потым крыху падумаў і дадаў: «Гэта, вядома, не вялікая радасць — у падсобніках хадзіць. Давайце сёння з майстрам дамовімся. Будзем электразварку асвойваць».

Засталіся пасля работы. Назаўтра — зноў. Адным словам, уцягнуліся ў вучобу.

А праз месяц здалі экзамены. Атрымалі разрады. Так у прэсавым цэху з'явілася новая брыгада электразваршчыкаў. Валянціна Ганчарова прызначылі брыгадзірам. Да арміі ён скончыў 8 класаў, а цяпер у дзявяты паступіў. Следам за ім іншыя ў школу падаліся.

Тады на заводзе асвойвалі 27-тонны самазвал «БелАЗ-540». Брыгада Ганчарова рыхтавала дэталі для гэтай машыны. Работы было шмат. Але хлопцы спраўляліся. І калі першы самазвал выйшаў з заводскіх варот, гэта была і іх перамога.

... Першая мая сустрэча з Ганчаровым адбылася пасля прыезду яго з Масквы, дзе ён быў дэлегатам XXIV з'езда партыі і дзе яго выбралі кандыдатам у члены ЦК КПСС.

Я прыйшоў у цэх на пачатку змены.

Усімі колерамі вясёлкі пераліваліся агеньчыкі электразваркі, натужна кракталі шматтонныя прэсы. Над пралётамі цэха праносіў порцыю дэталей спрытны працаўнік-кран. Ад брыгады да брыгады, ад прэса да прэса бегалі вёрткія электракары.

Брыгада Ганчарова не вельмі вялікая — чатыры зваршчыкі, пяць слесараў. Дарэчы, кожны з іх можа замяніць адзін другога.

Валянцін Іванавіч на пачатку здаўся мне сухаватым і негаваркім. Чагосьці яркага, што адрознівала б яго ад іншых, я не бачыў. А зразумеў усё толькі, калі пагаварыў з яго таварышамі.

...Рыгор Кругляк паскардзіўся аднойчы брыгадзіру на невясёлае сваё жыццё — няма кватэры, а сям'я вялікая.

— Нешта прыдумаем,— сказаў той.

Бачыць Рыгор, ходзіць Валянцін па цэху, то каля аднаго хлопца спыніцца, то ля другога. Аказваецца, гаварыў ён з тымі, хто перад Кругляком у чарзе на кватэру стаяў. Кругляк быў семнадцаты.

Аднаго разу прыйшоў задаволены:

— Гара з плячэй звалілася. Можаш ісці атрымліваць ордэр на кватэру. Угаварыў хлопцаў пачакаць. Бачыш, якія хлопцы ў нас.

Ён гаварыў пра хлопцаў так, нібы сам да гэтага не меў ніякага дачынення.

...Аднойчы ў брыгадзе здарыўся такі выпадак. Леанід Шаблоўскі гнуў бразгавікі (гэта такая дэталь для аўтамашыны). На чарцёж не глядзеў. Маўляў, усё па памяці ведаю. Больш сотні дэталей. Калі ж праверылі, выявілася, што гнуў ён іх не ў той бок. Патрэбна было выпрамляць дэталь, зноў гнуць. Работы на некалькі дзён.

— Хай застаецца ў трэцюю змену і выпраўляе брак,— кінуў хтосьці ці то ўсур'ёз, ці то жартам.

— Нельга, хлопцы, на аднаго ўсё звальваць, — падаў голас Валянцін Ганчароў.— Памыліўся чалавек. Гэта можа з кожным здарыцца. Брак выправіць трэба ўсім разам.

Праз два дні зрабілі. Пасля была сур'ёзная размова з Леанідам. Гаварылі і пра яго адносіны да справы, і пра характар, і пра многае іншае. Чалавек усё зразумеў.

У тыя дні шмат чаго добрага пачуў я пра Валянціна Ганчарова. І што выдатны ён рацыяналізатар, і што вельмі многа чытае. Між іншым, цікавая дэталь — з кожнай палучкі, купляе Валянцін некалькі кніг. А калі прачытае, нясе ў бібліятэку і просіць, каб далі гэтыя кнігі пачытаць і другім.

Нядаўна мы ўбачыліся з Валянцінам Ганчаровым на адной з вуліц. Разам са сваімі сябрамі ён вартаваў спакой роднага Жодзіна.

Было ціха. Толькі побач рытмічна білася сэрца аўтамабільнага. Там, за сценамі завода, нараджаліся новыя машыны. І ў кожнай з іх была частачка працы і яго, Валянціна.

**А. АСТРЭЙКА.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ДЗЯРЖАЎНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСКАЙ ССР імя У. І. ЛЕНІНА ОРДЭНАМ ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА

За плённую работу па камуністычнаму выхаванню працоўных узнагародзіць **Дзяржаўную бібліятэку Беларускай ССР імя У. І. Леніна** ордэнам **Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ПАДГОРНЫ.**
**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.**

Масква, Крэмль.
26 верасня 1972 г.

# МАСАВІК— ПРАФЕСІЯ АДКАЗНАЯ

Арганізацыя адпачынку — справа сур'ёзная і вельмі не простая. Пра гэта добра ведаюць удзельнікі ўсесаюзнага семінара масавікоў паркаў культуры і адпачынку, які адбываецца ў Мінску.

На семінары будуць абмеркаваны пытанні, звязаныя з паляпшэннем работы ўстаноў культуры і паркаў краіны. «Семінарысты» праслухаюць шэраг лекцый: «Партыйнасць і народнасць сацыялістычнага мастацтва», «Аб эстэтычным і этычным выхаванні», «Аб культуры мовы масавіка», «Роля масавіка ў правядзенні вечара адпачынку», «Бальны танец як сродак эстэтычнага выхавання» і інш. Лепшыя масавікі краіны падзеляцца вопытам. Перад аўдыторыяй, якая складае больш за 100 слухачоў, выступяць інспектар Міністэрства культуры СССР А. Дзіментман, кандыдаты мастацтвазнаўства А. Ладыніна, В. Захараў, выкладчык Мінскага педінстытута А. Каляда, а таксама лаўрэаты ўсесаюзных конкурсаў масавікоў Ю. Грачэўскі, І. Чувільчыкаў, В. Смірноў і інш.

Семінар арганізаваны Інстытутамі павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры СССР і БССР.

# НА МЯЖЫ БРАТНІХ РЭСПУБЛІК

**У гэтыя дні на Чарнігаўшчыне праходзіць Тыдзень беларускай літаратуры. Беларускія пісьменнікі Р. Барадулін, С. Шушкевіч, Р. Няхай, К. Камейша, Хв. Чэрня, В. Ярац сустракаюцца з працоўнымі горада і вёскі. Яны расказваюць аб дасягненнях беларускай савецкай літаратуры, дзеляцца творчымі планамі.**

**З візітам у адказ на Гомельшчыну прыедуць пісьменнікі з Украіны.**

ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Якуба КОЛАСА

Антон БЯЛЕВІЧ

# ВЯСНА ПАЭТА

З ДАНІЛАМ Канстанцінавічам Міцкевічам, сынам Якуба Коласа, мы ідзём вузкай лясной дарожкай. А яна, выкінуўшы каленца, бяжыць, вядзе нас з ельнічку ў смалісты бор, у паветры плавае густы, моцны настой жывіцы-смалы, нагрэтай кары, баравога моху. Чуецца дзятлаў перастук. Лясныя лекары выстукваюць, лечаць тыя хвоі, якія заімшэлі, занудзелі трошкі, зрабіліся хваравітымі. А дарожка бяжыць, вядзе ў беластволы бярэзнік. Яснымі праменнямі сонца прашыты светлы, залацісты, радасны, вельмі ўтульны бярэзнік. За ім зноў пачынаецца сасновы бор. Ён ужо не такі, як той першы, смалісты, гонкі, меднаствольі. У гэтым там-сям стаяць кашлатыя елкі, кучаравыя бярозы, коывыя, шырокія ляшчыны. Гэты бор патыхае вільгаццю, прэлым мохам, грыбным водарам. Тут трошкі неяк вусцішна, таямніча, загадкава. З баравіком у зубах вавёрка перабегла дарожку...

Перада мной чамусьці ўсплылі малюнкі, якія некалі ўразілі Кастуся, будучага паэта Якуба Коласа. Многа сцежак-дарожак пратаптаў ён у гэтым лесе, ходзячы ў ягады, грыбы, арэхі. Можа, і перад ім вось так перабягала дарожку вавёрка, трымаючы ў зубах крамяны баравічок?.. Было таямніча, вусцішна, загадкава малому Кастусю ў гэтым лесе.

Ад кожнай хвоі і яліны,
Ад кожнай краскі і каліны—
Легенды, казкі і быліны,
Нібыта цёхкат салаўіны,
У сэрца хлопчыку плылі,
Праз дзіва-дзіўнае вялі...

А нас лясная дарожка вядзе на драўляны мосцік над чыстай лясной крынічкай, якая апета, паказана паэтам у яго паэме «Новая зямля». Я прыгадаў жывыя малюнкі, мілыя, родныя сэрцу, і вось ужо паплылі ў белы свет радкі майго верша:

Дубы акругленай падковай
Стаяць ля хаты лесніковай,
Крынічка булькае ў траве...
Альбуць! Вось тут Кастусь
жыве.
Вясна лясной, крынічнай
мовай
Ў першы верш яго плыве.
І не ў рэдакцыі, а ў хаце
За першы верш яму заплаціць
Сам бацька першы ганарар:
— Бяры рубля, камар-дудар!
А гладка складзена! Ты гэта
Сам гэтак здатна адхвастаў?
— Ага.
— Пішы!.. —
Кастусь паэтам,
Якубам Коласам ён стаў!..

Заходзім у тую хату, дзе ён напісаў свой верш «Вясна», які вельмі спадабаўся бацьку-лесніку.

Даўно пастарэлі, пацямнелі сасновыя, моцныя бярвёны ў сценах лесніковай хаты. Цішыня, прыемны, добры халадок і ў сонечны, цёплы дзень, пад страхою хаты, у сенцах стаяць цабэрачкі, кадушачкі, начоўкі, дзяжа, куфэрак. У каморцы — палічкі, а на іх збаны, слоікі, макацёр. Усё тут нагадвае далёкі час, уклад і лад беднага жыцця леснічоўкі.

У думках, у жывой яве бачу, як на доўгай лаве, за сталом сядзіць яшчэ зусім маладзенькі Кастусь. У лузе, у лесе за дзень навалачыўся, стомлены хлопец, зморанЫ, але шчодрая душа не паддаецца сну. Гэтая чулая душа за дзень увабрала ў сябе многа шолахаў і гукаў, жывых галасоў зямлі, птушак, травы і красак. Гэта ж усё трэба пераплавіць у сэрцы, трэба ўсё перадаць словам, вершам, песнямі. Сядзіць маладзенькі паэт за сталом, а газовачка жаўтаватым агеньчыкам падміргвае, асвятляе той лісток паперы, на які кладуцца радкі верша «Вясна».

Цяга да паэзіі была такой вялікай, што хлопец у той хаціне, на хутары Альбуць, прачытаў, амаль навечна запомніў усе байкі Крылова, многія вершы Пушкіна, творы Гогаля. У пятнаццаць гадоў ён, пастушок, сын лесніка, паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Там адзін літаратар блаславіў яго на яшчэ больш плённую творчасць.

У семінарыі Нясвіжскай
Яго ўжо вершы—не сакрэт.
Настаўнік, друг, Фядот
Кудрынскі,
Сказаў:—Пішыце. Вы—паэт!..

Нібыта Пушкіна Дзяржавін,
Прыкмеціў Коласа Фядот.
І вершы ціха не ляжалі,—
Пайшлі дарожкамі ў народ.

Студэнты самі падбіралі
Мелодыі да шчырых слоў.
Над борам песні пралятали,
Над жальбай ніў і паплавоў...

Трошкі ў баку ад Мікалаеўшчыны, на ўзбярэжжы светлага Нёмана, стаіць другая хата, у якой Якуб Колас упершыню спаткаўся з Янкам Купалам. Радасна яны былі ўсхваляваны першай сустрэчай. Доўга, шчыра гаварылі ў хаце, а пасля Колас вадзіў свайго госця ў лугі, у лес, паказваў яму хараство навакольнай прыроды. Купалу вельмі падабаліся жывыя, цудоўныя малюнкі прыроды. Ён у захапленні гаварыў:

— Глядзі, Якубе дарагі,
Які закутак мілы!
Якуб сказаў: — Лясы, лугі
Належаць Радзівілу.
У лесе шолах і арэх,
І кожны грыб ягоны,
Яму мужык зямлю арэ,
Мужык па Нёмну гоніць
Яго плыты за згонам згон
На дальнюю чужыну.
У тым гаі прысвоіў ён
Маліну і ажыну.
І кожны пень, і кожны сук,
І кожны ліст, і шышку...
Сплёў павуціну, як павук,
Магнат-павук Нясвіжскі...

Душа набалелая крычала, а гэты крык мужыкоў глушылі прыкладамі, секлі бізунамі радзівілаўскія гайдукі, аканомы ў полі, у лесе, на дварах і канюшнях. На ўсё жыццё запомнілася Якубу Коласу вяселле ў маёнтку Радзівіла, якім быў абураны Нясвіж.

Абуран быў паэт таксама,
У сэрцы быў вялікі боль.
Вы ж уявіце добра самі
Такі малюнак: беглі сані,
Таптали сані тую соль,
Якая гурбамі ляжала,
Дарогу летнюю ўсцілала,
Бялела, быццам добры снег.
А для забавы, для пацех—
Мядзведзяў тройку...
Зазваніла
Званіца князева ў званы.
Равуць звяры, равуць яны,
Паны, падпанкі і магнаты,
Рыпіць,
Скрыпіць
Пад імі соль.
Яе няма ў мужыцкіх хатах,
Там ёсць бяда і горкі боль;
Там голад з кайстрай ля
парогу,
Худой нядолі чорны цень.
А князь вясельную дарогу
Усыпаў соллю ў летні
дзень...

Пра нішчымны побыт, пра горкую долю таго далёкага часу добра гаворыць сама гэта хата, у якой з тых заімшэлых дзён захаваліся жорны, ступа, таўкачы. На гэтых жорнах Якуб Колас малоў зярняты, у гэтай ступе тоўк проса, ячмень, грэчку. У хаце захаваліся пастаў, бёрды, прасніца, сукала. Пры дапамозе гэтага струменту маці, сёстры паэта пралі кудзелю, сукалі ніткі, навівалі іх у клубкі, ткалі палатно на кашулі, на штаны і спадніцы, на пасцілкі і мяшкі. А што было насыпаць у тыя мяшкі? Куколь ды званец, васількі ды ўпартая свірэпка заглушалі, душылі мізэрнае, рэдзенькае жыта на пясчанай, нішчымнай палосцы зямлі.

Пякучая, балючая карціна! А хацелася ж неяк аздобіць, прыхарошыць, зрабіць тое заімшэлае жыццё больш прывабным, весялейшым. Сваімі рукамі, яшчэ ў маладосці, Якуб Колас пасадзіў каля хаты, на двары маленькія, тоненькія ліпкі, клёнікі, ясені. Карміў, паіў, душою саграваў іх. Прыжыліся. Выраслі.

Пад васільковым небам шумяць высокія, шырокія ліпы, асыпаючы пажоўклыя лісты на зялёную траву, у якой чырвоны, белы колер дзятлоўніка, рамонку, дзікай канюшынкі. Глядзіць на гэту маляўнічую карціну Даніла Канстанцінавіч, любуецца:

— Хараша! — захапляецца ён. — Любіў нябожчык бацька такія самабытныя, жывыя малюнкі прыроды...

Любіў бацька, любіць сын, люблю я, любіць і сама хата звыклы, натуральны малюнак, дар прыроды. А чамусьці гэтага не ўзлюбіла адна адказная, кіраўнічая асоба. І загадала:

— Трэба гэты поплаў узараць! Трэба тут пасеяць культурныя травы. Трэба разбіць квяцістыя клумбы, парк!

О, каб мог пачуць гэта нябожчык паэт! Ён бы горка ўсміхнуўся і сказаў:

— «Разбіць»? А навошта іх разбіваць? Хіба яны ворагі? Мы наша гора, нашых ворагаў разбівалі. А клумбаў не трэба разбіваць. Не трэба мне твае квяцістыя, дэкаратыўныя клумбы. Люблю жывую, натуральную, сэрцу мілую прыроду...

Нібыта тыя векавечныя дубы каля Альбуці сваімі каранямі ўвайшлі,ураслі ў родную зямлю, гэтак душой і сэрцам увайшоў у прыроду, урос у жыццё, у родны свет Якуб Колас. Яшчэ тады, калі ён не быў Коласам, калі ён, маленькі Кастусь, на лугавіне каля лесу пасвіў адвячоркам каня, сядзеў у белым тумане каля агеньчыку, даваў яму галлё і трэскі, каб ён акрыяў.

Каб спёк струкі на яркім
жары,
Бульбінкі ў прыску добра
спёк...
Сядзеў Кастусь. А думы-мары
Плылі далёка...
З лесу цёк
Духмян малінніку і шышак,
І пах нагрэтае кары.
Хлапчук глядзіць: нібы
выйшаў
З туману нейкі дзед стары.
«Ён, можа, той, што ночкай
цёмнай
Выходзіць, зрынуўшы курган?
Закурыць люлечку над
Нёмнам,
Пасцеле дым, нібы туман...»

Вядзе нас лясная дарожка да таго далёкага, даўно травой зарослага вогнішча, дзе некалі ў тумане сядзеў маленькі Кастусь. У гэтым лясным, круглым, як чаша, азярцы ён вудзіў рыбу. На гэтай лугавінцы ў сенакос ён з духмяных чарачак смактаў мядок чмяліны.

І тым адвячоркам, калі мы з Данілам туды прыйшлі, лугавінка пахла мурожным сенам, лугавой мятай, чмяліным мёдам. За лугавінкай — палянaчка, а навакол баравы лес, перасыпаны бярозамі. Гэта—Ласток. Гэта — маленства Кастуся. Тут стаіць хата, трэцяя хата, а на сцяне трэцяя мемарыяльная дошка, на якой адбіты даты жыцця Якуба Коласа ў Ластку. Тры хаты, тры мемарыяльныя дошкі ў адным Стаўбцоўскім раёне! У ваколіцах Стаўбцоў і Навагрудка, каля Нёмана, нарадзіліся, узгадаваліся два Міцкевічы, два вялікія паэты: Адам Міцкевіч — польскі паэт і Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас)—беларускі паэт...

Нядаўна на зямлі Якуба Коласа, у Мікалаеўшчыне, адбылося свята паэзіі, прысвечанае Тыдню літаратур народаў нашай Радзімы. Над ліпамі паэта, над векавечнымі дубамі звінелі песні, па сінім Нёмане плылі галасы, вянкі нашай вялікай братэрскай дружбы. І хоць жуaccording равы, буслы пацягнулі на сваіх крылах даспелую восень, хоць парыжэлі паплавы, пажоўклі бярэзнікі — у нашых сэрцах вясна, тая вясна-красна, якую гукаў, якую прыгукаў у родны край родны Колас. Ён даў нашай паэзіі, нашай вясне крылы, славу, сілу...

У хоры вялікім, у радасным
голасе
Чуюцца песні любімага
Коласа,
Сэрцамі нашымі дружба
прашытая,
Шчырасцю, сілай вялікай
налітая.
Сунецца гора—яго перамелем
мы,
Крочым да сонца дарогаю
Леніна.

# ГРОДЗЕНШЧЫНА БІБЛІЯТЭЧНАЯ

●

Кнігу называюць другім хлебам моладзі. Таму сапраўдным падарункам для маладых рабочых Гродзенскага хімкамбіната і будтрэста № 11, якія жывуць у інтэрнатах па вуліцы М. Белуша, было адкрыццё гарадской бібліятэкі № 2. Зараз рабочыя складаюць асноўную масу яе чытачоў. Калектыву бібліятэкі з вопытным прапагандыстам кнігі Л. Юдкінай робяць усё для таго, каб кніга стала сапраўдным сябрам і памочнікам маладых чытачоў. На кніжных выстаўках прадстаўлена літаратура па тэмах, якія блізкія і цікавыя ім: «У адзінай сям'і, да адзінай мэты», «Такія мы — рабочыя», «Савецкая моладзь: яе інтарэсы, імкненні, ідэалы», «Рабочыя паэты аб паэзіі працы». Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца кнігі аб дружбе братніх народаў нашай Радзімы, лепшыя творы пісьменнікаў саюзных рэспублік.

Бібліятэка ўлічвае ўласцівае моладзі жаданне збірацца разам для таго, каб абмеркаваць цікавую кнігу, паслухаць цікавага чалавека, паспрачацца. Разам з камсамольскімі арганізацыямі і выхавацелямі інтэрнатаў арганізоўваюцца вечары, дыспуты, канферэнцыі чытачоў. У апошні час тэматычныя вечары: «Хто хвалюе тваё камсамольскае сэрца», «Украіна і Беларусь — рэспублікі-сёстры», «Я знаю — горад будзе» прайшлі на фабрыцы мастацкіх вырабаў, у інтэрнатах будаўнічага трэста. А работнікі швейнай фабрыкі на канферэнцыі чытачоў «Галоўны герой — рабочы» абмеркавалі мастацкія творы, прысвечаныя рабочаму класу.

●

Супрацоўнікаў чытальнай залы абласной бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага часта можна сустрэць на прамысловых прадпрыемствах горада. Яны прыходзяць туды з кнігамі для таго, каб спецыялісты і рацыяналізатары непасрэдна ў цэхах маглі азнаёміцца з навінкамі вытворчай літаратуры. З дапамогай рэферэнтаў з ліку інжынерна-тэхнічных работнікаў і супрацоўнікаў абласнога аддзела інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі падбіраецца самая актуальная і новая літаратура. Паспяхова прайшлі прагляды навінак літаратуры па кантрольна-вымяральных прыборах на заводзе карданных валаў, многа цікавых кніг выбралі работнікі завода зборнага жалезабетону пры праглядзе літаратуры на тэму: «Новае ў вытворчасці жалезабетонных канструкцый».

У апошні час у практыку работы бібліятэкі трывала ўваходзіць індывідуальная інфармацыя спецыялістаў аб новай літаратуры, якая паступіла сюды.

Трэба сказаць, што кожны спецыяліст, дзе б ён ні жыў, у горадзе ці вёсцы, можа даведацца аб навінках літаратуры. Для гэтага дастаткова паведаміць у бліжэйшую бібліятэку, па якой тэме яго цікавяць новыя кнігі.

●

Нам больш прывычная цішыня сярод кніжных паліц. А ў чытальнай зале Юрацішкаўскай гарпасялковай бібліятэкі нярэдка можна пачуць сур'ёзную музыку, папулярныя песні савецкіх кампазітараў. Вось ужо год як тут рэгулярна праводзяцца музычныя гадзіны, якія падабаюцца жыхарам пасёлка. Гутаркі аб жыцці і творчасці вядомых музыкантаў, праслухоўванне іх твораў дастаўляюць слухачам асалоду, вучаць любіць і разумець музыку. На праведзеных ужо музычных гадзінах чытачы бібліятэкі даведаліся аб гісторыі вальса, пазнаёміліся з гісторыяй стварэння лепшых песень нашага часу, з творчасцю кампазітараў А. Астроўскага і А. Пахмутавай.

Ю. ІВАНОЎ,
загадчык навукова-метадычнага аддзела Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Карскага.

ДЫСКУСІІ

*На парадку дня:*

ПРАБЛЕМЫ ПАЭЗІІ

**Працягваем размову пра надзённыя праблемы нашай паэзіі, пачатую дыялогам паэта Анатоля Вярцінскага і крытыка Варлена Бечыка («Літаратура і мастацтва», 9 чэрвеня). Як вы памятаеце, размову гэтую працягвалі Марына Барсток і Алесь Марціновіч (23 чэрвеня), Юрась Свірка і Любоў Гарэлік (30 чэрвеня), Мікола Арочка і Васіль Жуковіч (21 ліпеня), Аляксей Зарыцкі і Радзівальт Літвінаў (18 жніўня).**

**Сёння прадастаўляем слова нашым чытачам з розных куткоў рэспублікі. Іх шчырая зацікаўленасць пытаннямі паэзіі — лішні доказ шырыні грамадскага ўздзеяння літаратуры.**

# ПРА КУЛЬТУРУ ПАЭТА І КРЫТЫКА

Дыялог В. Бечыка і А. Вярцінскага («Літаратура і мастацтва», 9 чэрвеня), як гэта і павінна было здарыцца ў такой размове аб сучаснай паэзіі, закрануў розныя, але, безумоўна, істотныя, надзённыя праблемы паэтычнай творчасці. Бадай, адзінае, што выклікае ў ім пачуццё пярэчання, гэта пачатковы момант вызначэння тэмы размовы, калі паэт і крытык дамовіліся, што абодвух цікавяць не падробкі, а недаробкі. В. Бечык заключыў: «Тое, што па-за літаратурай — прадмет для іншай размовы».

Што павінен думаць радавы, так сказаць, прыхільнік паэзіі казнаёміўшыся з гэтай сентэнцыяй? Што менавіта аднёс крытык за межы літаратуры? Ці не тую рыфмаваную стыхію, якая штодзень абрынаецца на яго галаву са старонак самых розных выданняў? І калі яна адбудзецца, нарэшце, тая абяцаная асобная размова?

Зразумела, гэтыя чытацкія пытанні могуць і павінны быць зададзены не асабіста В. Бечыку, а крытыцы наогул.

Зноў пра крытыку... Што зробіш, размова аб стане сённяшняй паэзіі без звароту да яе будзе няпоўная. Як рэдка, на жаль, вастрыё кваліфікаванай крытыкі звяртаецца не супраць недаробак ці падробак, а супраць павярхоўнасці і неаддзельных ад яе пошласці і мяшчанства. Прытым не толькі ў паэзіі, а і ў самой размове аб вершах, у спробах навязаць чытачу сваю ходкую эстэтыку ў якасці сапраўдных крытычных ацэнак. Задача гэта — з найважнейшых. Пагарджаць ёю — значыць недаацэньваць рэальных пагроз, якія вядуць да інфляцыі і паэтычнага слова, і крытычнага водгуку.

Культура размовы аб вершах, і перш за ўсё, у такім аператыўным і ёмкім жанры, як рэцэнзія, павінна не выходзіць з нашага поля зроку. Чытач прывыкае да таго, што пра вершы часцей за ўсё кажуць так: «Шчырасць і задушэўнасць, прастата і сціпласць уласцівыя... Кожны верш, кожны радок зборніка прасякнуты бязмежнай любоўю... Паэт цвёрда адстойвае прынцыпы роўнасці і чалавечнасці, зладжанасць і згоду...»

Пра каго гэта? Дзе адметныя рысы творчасці аўтара? Пра чыю кнігу апавядае гэты набор дзяжурных штампаў? Ды такіх рэцэнзій можна назваць дзесяткі, сотні... Наўрад ці такая «станоўчая» крытыка можа спадабацца самому аўтару зборніка...

Але зусім горка робіцца, калі сам паэт рэкамендуе маладога дэбютанта ў такіх тонах: «Лірычны герой паэта — наш сучаснік, чалавек эмацыянальны, які не можа не «выклікаць агонь на сябе», не можа не быць на перадавой барацьбы са злом...» Ды хіба так павінен пісаць паэт пра паэта, хіба так трэба гаварыць з моладдзю, якая любіць вершы? Не магу не ўтрымацца, каб не працытаваць аднаго старога публіцыста, які заўважыў свайму калегу, што апеліраваў да маладога пакалення: «Трэба гаварыць і думаць, як Шылер, а вы «гаворыце і думаеце, як пад'ячы!» Гэтая, нярэдка назойлівая «пад'ячая» беднасць думкі і слова ў размове пра паэтаў і паэзію не так вынік духоўнай лянoты, як беднасці, павярхоўнасці, малой культуры. А самі вершы?..

І у выступленнях некаторых удзельнікаў дыскусіі прагучаў заклік да прастаты, заклік

# КАБ МУЗА ПА НАЧАХ БУДЗІЛА

Паэзія ніколі не была і не магла быць прыватнай справай. З імёнамі Дантэ, Шэкспіра, Руставелі, Пушкіна мы звязваем адзнакі пэўнага часу, чалавечых адносін і пачуццяў, нацыянальнай культуры цэлага народа. Гаворачы пра лірычнага героя Багдановіча альбо Багушэвіча, Купалы альбо Коласа, уяўляем сабе канкрэтны сацыяльны тып чалавека не толькі пэўнага часу, але і з рэальнымі асаблівасцямі мыслення і мовы, постаці і нават адзення. Мне не хацелася б, каб хто-небудзь з тых, каго сапраўды хвалюе стан нашай сучаснай паэзіі, паморшчыўся ад гэтых гістарычных аналогій, — маўляў, пра што ідзе гутарка... Гутарка ідзе пра беларускую літаратуру, якая імёнамі сваіх лепшых талентаў выйшла на сусветную арэну, аказвала і цяпер аказвае ўплыў на развіццё гуманістычнай думкі і культуры іншых народаў.

Прымаючы. як самае неабходнае, як адзіную ўмову існавання паэзіі яе грамадскую функцыю, а разам з тым і тое, што паэзія павінна быць у гэтай якасці і споведдзю, і парадай, і адкрыццём, прыходзіш усё ж да старой думкі, што тыя слабыя творы, якія выйшлі з друку ў апошні час,.. дрэнна напісаны.

У дыялогу паэта А. Вярцінскага і крытыка В. Бечыка гаварылася нават, што права на выданне можа атрымаць толькі кніга, напісаная таленавіта. А што больш сведчыць пра талент, чым высокі ўзровень мастацкага ўвасаблення? У кожным крытычным артыкуле за апошні час прыкладаў недасканалай тэхнікі можна набраць даволі многа. Прыводзяцца яны і ў дыялогу, з якога пачыналася дыскусія ў «ЛіМе», дарэчы, гэта можна паказаць і на прыкладзе змешчанай там жа падборцы вершаў маладых паэтаў, якая, можна сказаць, ілюструе стан сучаснай маладой паэзіі. Спашлюся на іншых паэтаў, сярод якіх ёсць і сталыя... Вось рыфмы: гушкае — якая, жмут — нафтабуд, нагружаць — іржа, рамазан — МАЗы, ім — былым, столлю — століках, паказваюць — мазавец, лаз — верхалаз, адразу — верхалаза...

Рыфмы самі па сабе, вядома, не могуць быць добрымі ці дрэннымі, але яны не нейтральныя да зместу. Ды ці не замнога бедных, выпадкова прыцягнутых рыфм!

Цяпер, калі беларуская паэзія авалодала так званымі цвёрдымі формамі; калі майстэрства гукапісу пасля Купалы знайшло ўдалае прымяненне ў вершах Барадуліна; калі Уладзімір Караткевіч адрадзіў неадпрацаваныя лексічныя слаі і метрыку мінулых стагоддзяў у эмацыянальных і сучасных па думках і пачуццях вершах і баладах, — як можна пасля гэтага ў вобразнай паэтычнай мове не пайсці далей знешняга параўнання, у гукавой інструментоўцы задаволіцца рыфмай. зусім беднай і не дакладнай, у слоўніку збіраць усё, што трапляе пад руку!

Паэт не можа карыстацца чужым поглядам, альбо наогул не мець сваёй думкі — бо тады ён нецікавы, і не ў сілах выказаць думку грамадства. Тады і нараджаюцца тыя самыя аднастайныя «птушыныя песні», пра якія сказана і ў дыялогу крытыка з паэтам... З другога боку, мастацкае ўвасабленне патрабуе ад паэта падняцца над тым моўным пластом, дзякуючы якому ён толькі і можа быць зразумелы — і не адарвацца ад яго. І прымусіць слухаць сябе, і прыносіць асалоду, і зноў-такі, знайшоўшы сродкі не дзе-небудзь, а ў моўнай стыхіі, якой умееш валодаць.

Вядома, можна часам напісаць і такое:

> У цяністасці гаёвай
> Наш пярэдне-ўмоўны край...

І такое:

> Фантаны шумяць, як авацыя,
> І парк, як алеяй іду я.
> Як добра, што кветкі ў жыцці
> нашым ёсць
> І нават цэлыя плантацыі.

На першы погляд, гэта толькі сучкі, якія можна абчасаць. Аднак, магчыма, падыдзі паэт да паэзіі, а гэта значыць, у першую чаргу да сябе патрабавальна, то верш і не з'явіўся б у друку ...Але ён з'явіўся!

У сувязі з гэтым варта было б на старонках «ЛіМа» пагаварыць аб творчай школе — бо ў нашай паэзіі ёсць паэты, у якіх можна вучыцца, і ёсць і будзе прыходзіць у літаратуру таленавітая моладзь.

У нізцы вершаў, змешчанай у студэнцкім нумары «Полымя», Юрась Свірка спрабуе высветліць свае адносіны з каханай і Музай. І калі для каханай ён не толькі раб, але і бог, то для Музы толькі даўжнік, на якога яна:

> ...Не насядае штохвілінна
> І не бяссоніць да відна...
>
> Яна ж іх знае паіменна
> Сваіх вялікіх даўжнікоў
> І не бярэ даніну з бедных,
> Ды што там возьмеш з беднякоў!...

Муза павінна трывожыць. Бо кожны паэт удзельнічае ў стварэнні культуры, падтрымлівае яе рух, і даніна Музе — даніна нацыянальнай культуры.

Праца паэта — адказная і цяжкая. Гэта тыя самыя «тысячы тон славеснай руды», перавярнуць якія павінен з больш ці менш аддавочнай цяжкасцю любы паэт. Тут ад Музы патрабуецца адно—каб часцей будзіла па начах усіх сваіх даўжнікоў!

**Ала КАБАКОВІЧ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР.**

# ЗАПАВОЛЕНАСЦЬ ХАДЫ

Думаецца, дыскусія пра стан сучаснай беларускай паэзіі распачата літаратурным штотыднёвікам своечасова і не выпадкова. Гэтаму ўдала папярэднічаў разгорнуты і ўдумлівы абмен думкамі пра крытыку і літаратуразнаўства паміж пісьменнікамі, крытыкамі, выкладчыкамі-літаратарамі, чытачамі — вялікім колам грамадскасці, якое цікавіцца літаратурным працэсам. Як вядома, атакуючую, баяздольную моц літаратурна-мастацкай крытыкі ўзмацніла прадыктаваная жыццём Пастанова ЦК КПСС, якая па-партыйнаму выразна, чотка акрэсліла цяперашнія задачы крытыкі ў літаратурным працэсе краіны. Сёння ніхто са скептыкаў і нядобразычліўцаў не стане аспрэчваць сталасці, моцы беларускай паэзіі, якая набыла новы патэнцыял з другой палавіны пяцідзесятых гадоў, з таго знамянальнага часу, калі мастацкай літаратуры крануліся шматлікія істотныя перамены, якія вызначылі яе грамадскую і эстэтычную якасць.

«Новая кніга» А. Куляшова, «А дні ідуць...» П. Броўкі, «Мой хлеб надзённы» М. Танка, «Пры святле маланак» П. Панчанкі і іншыя — гэта кнігі, якія вызначалі кірунак беларускай паэзіі, былі ўзорам для маладзейшых паэтаў, а таксама сталі хвалюючым «матэрыялам» для шматлікіх чытачоў. Моцны голас беларускай паэзіі быў своечасова заўважаны і ацэнены: у 1961 годзе П. Броўку была прысуджана Ленінская прэмія, якая сімвалічна замацавала высокую думку ўсесаюзнага чытача аб нашай паэзіі.

У гэтыя часы вельмі наступальна, моцна ішлі ў літаратуру С. Гаўрусёў, Р. Барадулін, А. Вярцінскі, Г. Бураўкін, Ул. Караткевіч, Н. Гілевіч, П. Макаль і іншыя, адзін час здавалася, што гэтае «філалагічнае» пакаленне беларускіх паэтаў, адукаванае, чуйнае, па-грамадзянску смелае, часамі нават задзірыстае, пойдзе значна далей за сваіх старэйшых калег, возьме на сябе смелую і адказную ролю вызначальнікаў вех беларускай паэзіі. Гэтае прадбачанне, помніцца, нават было выказана ў друку некаторымі крытыкамі... На гэты час прыпадае росквіт творчасці многіх старэйшых паэтаў (А. Русецкага, М. Аўрамчыка, А. Бачылы).

Хто пастаянна і ўважліва сачыў за развіццём беларускай паэзіі, пачаў заўважаць, што эмоцыі нашых паэтаў у некаторым плане сталі супакойвацца, дыханне паэзіі запаволілася. Старэйшыя нашы паэты і маладыя, што на пачатку свайго творчага шляху нават бянтэжылі крытыку, набралі неабходнай моцы і пачалі працаваць роўна і спакойна — перыядычна змяшчаць у часопісах вершы, выпускаць у выдавецтвах кнігі. Мне здаецца, што паэзія на гэты час набыла даволі салідны ідэйна-мастацкі капітал, у некаторых аспектах спрабавала грунтоўна асэнсаваць яго і запаволіла свой рух, нібы разважаючы,—як ісці далей?

Прадбачанні некаторых паспешлівых крытыкаў не спраўдзіліся: М. Танк, А. Куляшоў, П. Броўка, П. Панчанка і іншыя старэйшыя паэты працягвалі быць галоўнай баяздольнай сілай, стваралі самае значнае ў паэзіі. Думаецца, іх багаты жыццёвы і творчы вопыт аказаў ім непараўнальную паслугу, вызначыў змест і характар іх паэзіі.

Маладзейшыя ж паэты неяк хутка выгаварыліся, у іх творчасці больш прыкметна стаўназірацца спад творчай актыўнасці;

# ПАЭЗІЯ МАЛАДЫХ

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## ДЗВЕ АДЗІНОТЫ

Хтось адзіноту вітае,
Заве,
смакуе, як тайну,
Бачыць адценняў мноства
У адзіноце простай.
Яму аднаму прыемней
Тварам лавіць праменні,
Чуць, як сучок хрусне,
Ягаду браць у вусны,
Думак клубок размотваць
І пра сяброўства марыць...
Але мяне не цешыць
Зацішша куткоў і сцежак.
Мне неабходны людзі —
Сябры, гледачы і суддзі.
Мне трэба, каб шуму хвалі
Вечны спакой хісталі.
І ўсё —
каб не бачылі збоку
Мяне адзінокай.

**Віктар ЯРАЦ**

## КАСТРЫ

Гарацъ кастры на тым узлессі,
дзе лета буйнае цвіло,
дзе травы даўнія ўваскрэслі
вятрам і холаду назло...

Гараць кастры на тым узлессі,
дзе нас з табою не было,
і толькі выраю крыло
зямлі махае з паднябесся.

# НА СЦЭНЕ— МАЛАДЫЯ АКЦЁРЫ

*Расказвае дырэктар Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра Ул. КУРУТА*

— Тэатр горада над Нёманам адкрывае дваццаць шосты сезон прэм'ерай «Самы апошні дзень» Б. Васільева. Спектакль прысвечаны будням савецкай міліцыі, работнікі якой і днём і ноччу пільна нясуць неспакойную вахту.

Паставіў спектакль малады рэжысёр — выхаванец Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута М. Прыёмка. Гэта яго чацвёртая самастойная работа. Мастацкае афармленне спектакля М. Якуніна. Галоўную ролю лейтэнанта Кавалёва выконвае заслужаны артыст рэспублікі С. Аляксандраў. У спектаклі заняты народны артыст БССР Я. Кімберг, заслужаная артыстка БССР Г. Панкрат, акцёры Ю. Барысёнак, В. Верхарубаў, Ул. Дзёмін і іншыя.

У трупе тэатра працуе многа выпускнікоў тэатральна-мастацкага інстытута. Як паведамлялася ўжо, пры ўдзеле акцёрскай змены да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы былі пастаўлены «Прымакі». Цяпер у спектаклі «Самы апошні дзень» упершыню выступаюць на прафесійнай сцэне выхаванцы тэатральна-мастацкага інстытута Аляксандр Луцэнка і Валянцін Старавойтаў.

50-годдзю ўтварэння СССР прысвячаецца пастаноўка п'есы класіка латышскай літаратуры Р. Блаўманіса «Блудны сын». Адбудзецца дэкада паказу лепшых спектакляў.

У гэтым важным для нас сезоне асаблівую ўвагу будзем звяртаць на сувязі з гледачом. Праводзім дні тэатра ў Берастовіцкім, Мастоўскім, Ваўкавыскім, Свіслацкім, Гродзенскім і Шчучынскім раёнах. Творчыя работнікі тэатра будуць замацоўваць сувязі з калектывамі буйных прадпрыемстваў, будоўляў і арганізацый Гродна. Мы заключылі дагавор творчай садружнасці з калгасам «Авангард» Гродзенскага раёна. У калгасным доме культуры адбылася цікавая творчая сустрэча артыстаў з працаўнікамі вёскі. Пасля быў паказаны спектакль «Трыбунал» А. Макаёнка. Распачатыя сувязі пастараемся ператварыць у традыцыю. Сёлета за дзевяць месяцаў для сельскіх гледачоў паказалі 179 спектакляў.

Пра нашу рэпертуарную афішу... Рыхтуем драму класіка французскай літаратуры Э. Растана «Сірано дэ Бержарак». Ставіць яго галоўны рэжысёр тэатра А. Струнін. Афармляць спектакль запрасілі мастака Акадэмічнага Малога тэатра СССР В. Клоца. У нашых далейшых планах — «Беспасажніца» А. Астроўскага і «Таблетку пад язык» А. Макаёнка. Для дзяцей пакажам казку «Кот у ботах» паводле Ш. Перо.

# НАСТРОЙ ТВОРЧЫ, РАБОЧЫ...

**Г. АСВЯЦІНСКІ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР, дырэктар тэатра**

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа адкрывае заслону, пачынае сорак сёмы сезон творчай дзейнасці.

Да свята 50-годдзя ўтварэння СССР калектыў падрыхтаваў новыя творы драматургаў братніх рэспублік, беларускіх пісьменнікаў, рускай класікі, капітальна перагледзеў спектаклі бягучага рэпертуару.

Адказным было і гастрольнае лета. Адбыўся абмен гастролямі з творчым калектывам братняй Украіны — тэатрам з Чарнігава. Гастролі коласаўцаў на Украіне прайшлі пад сцягам дружбы народаў. Віцябляне таксама шчыра віталі гасцей з братняй зямлі Тараса Шаўчэнкі.

**Тэатр паказаў у мінулым сезоне багаты на жанры і драматургічныя імёны рэпертуар. На нашай афішы — драма класіка рускай літаратуры А. Астроўскага «Багна», палітычны памфлет «Зацюканы апостал» А. Макаёнка, маладзёжная п'еса «Свой востраў» Р. Каўгвера, камедыя «Саслужыўцы» Э. Брагінскага і Э. Разанава, інсцэніроўка шматпланавага рамана «Снежныя зімы» І. Шамякіна. Большасць з іх карысталася поспехам у гледачоў. Аб гэтым сведчаць не толькі фінансавыя паказчыкі, а і актыўнасць грамадскасці ў абмеркаванні прэм'ер, заяўкі рабочых і сельскіх вытворчых калектываў на прагляд спектакляў.**

**Немалая заслуга ў гэтым мэтанакіраванай прапаганды тэатральнага мастацтва, якую вядуць артысты і рэжысёры трупы. Сустрэчы з рабочымі, калгаснікамі, студэнтамі і школьнікамі сталі традыцыйнымі. Скажам, створаны пры тэатры народны універсітэт мае сталую аўдыторыю ў 2 тысячы чалавек. Праведзена 24 заняткі па тэматычна багатай праграме, якая знаёміць слухачоў з рознымі праблемамі сцэнічнага мастацтва. Трэба сказаць, што сучасная моладзь з цікавасцю слухае лекцыі, праглядае спектаклі і потым абмяркоўвае іх разам з артыстамі і рэжысёрамі.**

У сёлетнім сезоне ў садружнасці з грамадскімі арганізацыямі мы адкрываем два новыя народныя універсітэты тэатральнага мастацтва. Першыя заняткі 17 кастрычніка для нафтавікоў Наваполацка прысвячаюцца тэме «Майстэрства быць гледачом»; адбудзецца прагляд спектакля «Несцерка» і яго абмеркаванне. Спадзяёмся, што ўсё гэта замацуе дружбу коласаўцаў з жыхарамі горада, які пабудаваны ў пасляваенныя пяцігодкі. Тут малады і цікаўны глядач.

У калгасах і саўгасах Віцебскай вобласці коласаўцы сёлета паказалі ўжо 175 спектакляў, на якіх пабывала 50 тысяч працаўнікоў сяла. Артыстычныя брыгады пабывалі ў самых далёкіх калгасах Браслаўскага, Пастаўскага, Глыбоцкага, Докшыцкага, Міёрскага, Верхнядзвінскага і іншых раёнаў. У верасні адбылося вялікае гастрольнае падарожжа коласаўцаў па Расоншчыне. І хоць выступалі мы на розных пляцоўках — то ў сучасных клубах, то на палявых станах — кожны вечар, а такая праца вымагае не толькі таленту, а і ўмення хутка «перабудоўвацца», артысты вяртаюцца з такіх паездак у прыўзнятым настроі: вельмі шчыра і горача прымае тэатр сельскі глядач. Летам асаблівы поспех прыпадаў і на «сур'ёзныя» спектаклі — «Багну» А. Астроўскага і «Трыбунал» А. Макаёнка, і на камедыйныя — «Амністыю» М. Матукоўскага. Коласаўцы адчуваюць узрост эстэтычных запатрабаванняў вясковага гледача.

Дарэчы, такія кантакты прыносяць вялікі плён. Скажам, падшэфны драматычны калектыў Талачынскага раённага дома культуры сёлета атрымаў званне народнага тэатра. Наогул многія артысты-коласаўцы на грамадскай аснове дапамагаюць мастацкай самадзейнасці сяла. Народныя артысты БССР А. Шэлег, Ф. Шмакаў, З. Канапелька, заслужаныя артысты рэспублікі Б. Левін, Г. Дубаў і іншыя таварышы сістэматычна рэжысіруюць і кансультуюць спектаклі на самадзейнай сцэне.

**Гаворачы пра сталыя ўзаемасувязі прафесійнай сцэны з масавай аўдыторыяй, мы не толькі робім справаздачу пра тое, што зроблена. Тэатр абавязаны, вобразна кажучы, трымаць руку на пульсе часу. Узбагачэнне лепшых нацыянальных традыцый сучаснымі формамі адбываецца ў мастацтве пад непасрэдным уплывам народнага жыцця, якое творчыя работнікі адчуваюць найбольш востра якраз у непасрэдных кантактах з людзьмі працы, ад іх чэрпаюць прыкметы і дух сацыялістычнага светапогляду ў канкрэтных праявах і жывых характарах. Хоць такі працэс амаль не паддаецца лагічнаму аналізу, але нават у размеркаванні роляў у новых спектаклях і ў фарміраванні рэпертуару штосьці істотнае часта падказваецца менавіта тымі ўражаннямі, якія артыстычны калектыў назапашвае ў часе сустрэч з гледачом і тут, у Віцебску, і на далёкіх і блізкіх гастрольных маршрутах.**

Пачынаючы новы сезон, тэатр працягвае вырашаць праблемы, а нярэдка і пераадольваць свае цяжкасці з улікам вопыту мінулага. Для тэатра імя Якуба Коласа вельмі надзённая і складаная справа — выхаванне новага акцёрскага пакалення ў духу і манеры менавіта нашага калектыву, яго творчых і этычных прынцыпаў, пакалення, вартага і здольнага развіваць традыцыі коласаўцаў «першых заклікаў». Нямала трэба зрабіць і для выхавання рэжысёрскіх кадраў. Спадзяёмся, што ў бліжэйшыя гады з дапамогай грамадскасці і ў гэтым напрамку адбудуцца плённыя змены. У прыватнасці, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут падрыхтуе для папаўнення трупы коласаўцаў цэлы курс артыстаў. За іх прафесійным станаўленнем трэба ўважліва прасачыць мастацкаму кіраўніцтву тэатра.

Кожны сезон нясе нешта новае і ў «стратэгію» — перспектыўныя планы і арыенціры ў рэпертуары і ў планах творчай дзейнасці трупы і асобных майстроў, і ў «тактыку» — у ажыццяўленне бліжэйшых, актуальных намераў. Скажам, калі мець на ўвазе нашы стратэгічныя далягляды, то і спектакль «Снежныя зімы», якім коласаўцы адкрываюць 6 кастрычніка сезон, — з ліку інсцэніровак буйных празаічных твораў, а гэтаму тэатр аддае шмат творчых сіл. Прыгадаем хоць бы «Бацькаўшчыну» К. Чорнага, «Крыніцы» І. Шамякіна, «Вайну пад стрэхамі» А. Адамовіча і іншыя нашы пастаноўкі такога плана. Сёлета аднаўляем у новай сцэнічнай рэдакцыі спектакль «На ростанях» паводле рамана Я. Коласа. Як вядома, паэт А. Звонак і рэжысёр Ю. Шчарбакоў у 1959 годзе зрабілі даволі ўдалую спробу «перакласці» маштабны празаічны твор народнага песняра на тэатральную мову. Цяпер калектыў вяртаецца да інсцэніроўкі пад назвай «Навальніца будзе» і прысвячае пастаноўку 90-годдзю Якуба Коласа. Да юбілейнай даты будзе падрыхтаваны і тэатралізаваны вечар пад назвай «З майго летапісу».

11 кастрычніка яшчэ прэм'ера — «Не хвалюйся, мама!» па п'есе грузінскага пісьменніка Н. Думбадзе.

Назаву яшчэ і такія творы, што з'явяцца на афішы коласаўцаў на працягу новага сезона, — «Доктар філасофіі» югаслаўскага класіка Б. Нушыча, «Таблетку пад язык» А. Макаёнка, інсцэніроўка рамана «Прыніжаныя і пакрыўджаныя» Ф. Дастаеўскага. Ёсць і п'есы, аб якіх пакуль што гаварыць уголас не хацелася б...

**Для тэатра, які стала працуе ў абласным горадзе, вельмі вострай праблемай з'яўляецца захаванне ў рэпертуары лепшых спектакляў мінулых сезонаў. Коласаўцы, як вядома, зрабілі пачатак сезона «Несцеркам» традыцыяй. Але і пра захаванне іншых твораў, дарагіх трупе і асобным выканаўцам роляў, калектыў таксама дбае. Уводзяцца новыя артысты, удакладняецца рэжысёрскі малюнак, і тое, што мае ідэйна-мастацкую каштоўнасць, будзе ўтрымлівацца на рэпертуарнай афішы абавязкова.**

НАТХНЁНАЕ адлюстраванне жыцця на сцэне ў ідэйна ясных творах пра сучаснасць і мінулае, бескампраміснасць у выкрыцці варожай ідэалогіі, паказ чалавека камуністычнай маралі ў вострым канфлікце з усім, што тармозіць наш рух наперад, — такі пафас сцэнічнага мастацтва нашай краіны. Ён кіруе і творчымі шуканнямі Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. З пачуццём адказнасці перад грамадскасцю за кожны спектакль і кожную сустрэчу з гледачом адкрывае заслону сезона 1972-73 гг. наш калектыў, выяўляючы сваю творчасць па рашэннях гістарычнага XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

АКЦЁРЫ і РОЛІ

# ПРАГНУЧЫ БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ...



ЗАСЛУЖАНЫ АРТЫСТ БССР С. ХАЦКЕВІЧ У СПЕКТАКЛІ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ Я. КУПАЛЫ «РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО»

ТОЛЬКІ ШТО ЗОСЬКА расказала свой сон. І ў Марылі нечакана ўзнікла надзея: «Добры сон, вельмі добры сон!». Можа, лёс на самай справе злітуецца над імі, можа, мужу ўдасца ўмаліць пана, каб сям'ю не гналі з роднага гнязда, з зямлі, на якой жылі бацькі і дзяды...

Нечакана чуеш смех. Гэта ўваходзіць Лявон Зяблік. Дзіўны ў яго смех: смех — плач, смех — галашэнне, поўны горычы і разгубленасці, і ў той жа час у ім і выклік, і нейкая надзея. Артыст С. Хацкевіч не сказаў яшчэ ні слова, а мы ўжо адчуваем, што герой яго ў напружанні на мяжы чалавечых магчымасцей. Лявон доўга п'е ваду са збанка, нібы хоча хоць на кароткі час заліць полымя, што гарыць усярэдзіне. І толькі потым гаворыць: «Сёгоння высяляць будуць».

Родныя спачатку не вераць яму. Бо не можа чалавек смяяцца, калі наперадзе — жабрацтва, невядомасць, калі рушыцца жыццё. А ён нечага чакае ад іх — падтрымкі, дапамогі, збавення? Але кожная рэпліка Зосі і Марылі пераконваюць яго ў тым, што чакаць няма чаго. Апошнія кроплі надзеі зnікаюць. Сям'я занята сваёй непасрэднай бядой, ніхто не звяртае ўвагі на яго душэўны стан. Блізкія, ад якіх ён чакаў нейкага цуду, нават папракаюць Лявона, што ён, судзячыся з панам, патраціў усю іх маёмасць: «Ці з багатым беднаму судзіцца?» Гавораць жорсткія словы, нібы заганяюць цвікі ў труну.

І зразумеўшы, што тут, у сям'і, ён не знойдзе апоры, Лявон пачынае шукаць яе ў самім сабе. Ён міжволі ідзе да парога, туды, дзе стаіць калода з сякерай. Яна цягне яго, як магніт, і мы адчуваем, якіх намаганняў каштуе яму не глядзець на гэтую калоду, адкінуць страшную думку. Бо варта толькі ўзяць сякеру ў рукі...

Павольна і ціха, нібы ён адзін у цэлым свеце, спрабуе пераканаць самога сябе: «Я толькі хацеў праўды шукаць». Але нечакана смех вязне ў яго горле: «Здурэў і праўды шукаў»... І тая страшная трывога, якая агортвае Лявона — Хацкевіча, агортвае і нас. А ён глядзіць некуды паверх нашых галоў: «Чалавек з зямлёй зрастаецца, як гэта дрэва: ссячы дрэўца — засохне, адбяры ў чалавека зямлю — згіне».

Лявон — Хацкевіч гладзіць зямлю, набірае яе ў прыгаршчы, са смуткам глядзіць, як яна высыпаецца праз пальцы і далоні робяцца пустымі.

У чым яго віна? У тым, што любіў зямлю і паліваў яе салёным потам? У тым, што любілі яе яго дзяды і прадзеды? У тым, што падзіцячаму верыў у праўду, нягледзячы на цяжкія ўрокі жыцця? Не, ён не такі мудрэц, каб ва ўсім разабрацца, усё зразумець. Але ён адчувае, што яго вера ў абавязковую перамогу праўды і справядлівасці падарвана, што вінен у гэтым не хтосьці, а той агульны парадак, які пануе на свеце.

А што ён, Лявон, можа?

У хату ўрываецца Сымон з паведамленнем, што панскія людзі заворваюць гародніну і пшаніцу. Сваёй неўтаймаванай злосцю Сымон зараджае бацьку. І Лявон — Хацкевіч кідаецца да сякеры. Імгненне — і ён «натыкаецца» на сякеру позіркам. Спыняецца. А што было б, каб рука апярэдзіла думку? І хутка-хутка, каб «спакуса сякеры» зноў не авалодала ім, адварочваецца і адыходзіць.

— Няхай заворваюць. Іх зямля — іх права, — адказвае ён Сымону.

Гэтыя словы гучаць у Лявона — Хацкевіча не як пакорнасць лёсу, а

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Гомельскі абласны драматычны тэатр падрыхтаваў прэм'еру — спектакль «Амазонкі» па п'есе беларускага драматурга Анатоля Дзялендзіка ў пастаноўцы народнага артыста БССР І. Папова.

На здымку — сцэна са спектакля.

Фота Ул. ТКАЧЭНКІ.



На пачатку сезона Рускі тэатр БССР імя М. Горкага пазнаёміў гледачоў з камедыяй Дж. Кілці «Мілы падманшчык» у пастаноўцы рэжысёра А. Кузняцова.

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Патрык Кемпбел народная артыстка СССР А. Клімава, Бернарда Шоў — заслужаны артыст БССР Ю. Сідараў.

Фота А. КАЛЯДЫ.

як адказ на адно з пытанняў, якія мучаць яго сёння. Права не быць людзьмі ён пакідае панам. Сам жа ён застаецца чалавекам. І сына свайго хоча бачыць чалавекам. Таму вырывае сякеру з яго рук.

— Трэба праўды шукаць не тапаром, а розумам.

Словы вырываюцца ў Лявона нібы нечакана для яго самога. Удумваючыся ў толькі што сказанае, ён яшчэ раз перажывае сваё адкрыццё: змагацца з адным чалавекам — гэта не значыць перамагчы зло. І ўжо ўпэўнена, чаканячы кожнае слова, гаворыць сыну:

— Дзед твой не меў розуму, я не маю, але ты яго мей...

Мы чуем, як разбіраюць дах на хаце Лявона панскія слугі. Зоська імкнецца спыніць іх, папрасіўшы літасці. Лявон спыняе яе з той жа страснасцю, што і Сымона. Толькі ўжо не слепа, інтуітыўна, а свядома:

— Не трэба!.. Годзе ўжо бацька твой спіны нагнуўся і парогаў набіваў. Я сам вінен і за ўсіх вас адказ панясу перад людзьмі і перад богам.

Абуджэнне чалавечай годнасці? Так, але не толькі.

Самае важнае для Лявона тое, што ён нарэшце знайшоў адказ на пакутлівае пытанне: у чым вінен? Вінен у тым, што «спіны нагнуўся». І яшчэ ў тым, што быў сляпы, пакорлівы, што далей сякеры думка не даходзіла. Дзе ж для яго выйсце?

Спачатку ён чакаў нейкай цудадзейнай дапамогі ад блізкіх, але тады ён ведаў толькі сваю бяду. Зараз жа ён усведамляе, што вінаваты. Вінаваты за тых, хто жыў да яго, перад тымі, хто будзе жыць пасля. «Адказ панясу перад людзьмі і перад богам»... І яму здаецца, што яго смерць пакладзе канец гэтай пераемнасці рабства, што яна разарве бясконцы ланцуг няшчасцяў і бед сям'і.

Ідуць апошнія хвіліны жыцця героя Хацкевіча. Вось ён зноў глядзіць кудысьці над нашымі галовамі, вось неяк дзіўна павёў галавой, нібы яго душыць каўнер кашулі, унутрана сабраўся, уладна аддаў апошняе распараджэнне перад «вялікай вандроўкай»:

— Не выходзьце з хаты, пакуль я не вярнуся.

І толькі калі раздасца крык: «Бацька павесіўся!», — стане нам зразумела, куды Лявон так упарта глядзеў увесь час. На тое дрэва, якое спачатку было яго слухачом і дарадчыкам, а зараз прыняло яго жыццё.

Перад С. Хацкевічам стаяла нялёгкая задача, бо роля зусім маленькая. Яго герой літаральна сыходзіць са сцэны ў пачатку спектакля. Усё, што робіць артыст на сцэне, абумоўлена жыццём і ўнутраным светам Лявона.

Можа, гэта не будзе надта дзёрзка, калі скажу, што нешта ад шэкспіраўскага караля Ліра ёсць у гэтым вобразе, які з такім бляскам сыграў С. Хацкевіч.

І. ПІСЬМЕННАЯ.

# У МАСТАЦТВА ПЕРШЫ КРОК

*МІНСКАМУ МАСТАЦКАМУ ВУЧЫЛІШЧУ імя А. К. ГЛЕБАВА — 25 ГОД*

...ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ назад адбыўся першы набор у Мінскае мастацкае вучылішча.

— Ніколі не забуду, як пісалі на экзамене акварэль, — прыгадвае Ірына Глазава. — Ніколі не забуду першыя заняткі, маіх сяброў... Іван Рыгоравіч Краснеўскі, першы дырэктар вучылішча, клапаціўся пра кожнага з нас. А якія былі педагогі — Іван Осіпавіч Ахрэмчык, Леў Маркавіч Лейтман, Аляксандр Пятровіч Мазалёў, Канстанцін Міхайлавіч Касмачоў, Віталь Канстанцінавіч Цвірко!.. Як яны працавалі тут жа, побач з намі! Яны захаплялі нас сваёй прагнасцю да работы, сваёй любоўю да палатна, фарбаў. Вучылі думаць, вучылі быць патрабавальнымі да сябе.

У ліку першых выпускнікоў вучылішча — такія вядомыя сёння мастакі, як Міхась Савіцкі, Віктар Грамыка, Віктар Вярсоцкі. Ганарыцца вучылішча і больш познімі сваімі выхаванцамі — Арленам Кашкурэвічам, Маем Данцыгам, Іванам Стасевічам, Львом Гумілеўскім, Генадзем Мурамцавым, Юрыем Тышкевічам, Янкам Раманоўскім. Ды хіба пералічыш усіх!

Некаторыя выпускнікі вучылішча пасля атрымання вышэйшай мастацкай адукацыі вяртаюцца сюды ўжо ў якасці педагогаў: Васіль Ярмоленка, Валянцін Бараўко і іншыя. Тут навучалі раней або навучаюць цяпер складанаму мастацтву жывапісу, умельству рэалістычна адлюстроўваць свет такія цікавыя мастакі Беларусі, як Міхась Лісоўскі, Леанід Шчэмелеў, Мікалай Дубар, Леанід Асядоўскі, Алег Луцэвіч і іншыя.

Штогод у вучылішчы займаецца больш 300 навучэнцаў. І набор з кожным годам павялічваецца. Сюды прыходзяць юнакі і дзяўчаты, якія скончылі восем класаў агульнаадукацыйнай школы. За чатыры гады навучання яны адначасова набываюць і агульную адукацыю ў аб'ёме дзесяці класаў і мастацкую спецыяльнасць. Для пашырэння кругагляду, для азнаямлення з арыгіналамі майстроў мінулага і сучаснасці наладжваюцца паездкі ў буйнейшыя музеі краіны. Ездзяць у Маскву, Ленінград, Адэсу, Вільнюс, Рыгу, Талін. Улетку, у час вытворчай практыкі, навучэнцы раз'язджаюцца па ўсёй Беларусі, каб працаваць на пленэры. З практыкі звычайна прывозяць шмат замалёвак, эцюдаў, кампазіцый. Лепшыя з іх экспануюцца на выстаўках у вучылішчы — асенніх, пасля канікул, веснавых і наладжаных у гонар розных юбілейных дат. Іншы раз выстаўкі твораў навучэнцаў вучылішча наладжваюцца ў парках горада. Найбольш цікавыя работы трапляюць на рэспубліканскія і нават на ўсесаюзныя маладзёжныя выстаўкі...

Сваё дваццаціпяцігоддзе вучылішча адзначае настойлівымі пошукамі дасканалых метадаў навучання. Пераглядаецца методыка выкладання многіх прадметаў. Пераглядаюцца планы, праграмы. Метадычныя кабінеты шукаюць лепшыя метады выкладання кампазіцыі, малюнка. Вялікія патрабаванні прад'яўляюцца да выкладання шрыфтоў.

Адзін з асноўных клопатаў усяго калектыву педагогаў вучылішча — фарміраванне ў навучэнцаў марксісцка-ленінскага светапогляду, высокага грамадзянскага сумлення, пачуцця савецкага патрыятызму.

Сёлета ў вучылішча паступілі новыя здольныя навучэнцы.

Дырэктар вучылішча мастак Сяргей Максімавіч Цуканаў падкрэслівае, што вучылішча рыхтуе не толькі мастакоў-афарміцеляў, скульптараў-выканаўцаў, але і выкладчыкаў малявання і чарчэння.

— Нашы выхаванцы, набываючы ў вучылішчы дастатковае прафесійнае ўмельства, могуць працаваць і творча, — гаворыць загадчык навучальнай часткі вучылішча Леанід Майсеевіч Герчыкаў — і сапраўды, многія з іх паказваюць свае работы на выстаўках, працягваюць адукацыю, паступаюць у мастацкія вышэйшыя навучальныя ўстановы...

Сёлета абаранялі дыпломы выпускнікі аддзялення мастацкага афармлення педагогаў Алега Луцэвіча і Леаніда Дубара. Стварылі эскізы афармлення памяшканняў вучылішча, стэндаў і макетаў нагляднай агітацыі для паркаў. Скарыстоўваліся самыя разнастайныя тэхнікі — чаканка, інкрустацыя, фрэска, мазаіка, вітраж, самыя разнастайныя матэрыялы — кераміка, дрэва, шамот, шкло.

На аддзяленні выкладчыкаў малявання і чарчэння сёлета выпушчана 30 чалавек, якія займаліся ў групах Альгерда Адамавіча Малішэўскага і Ірыны Іосіфаўны Глазавай.

— Мне здаецца, што галоўная наша задача — выхоўваць творчы, грамадзянскі характар, — гаворыць адзін з вядучых педагогаў вучылішча, вядомы жывапісец Альгерд Малішэўскі. —Галоўнае, каб нашы выхаванцы разумелі, якія патрабаванні ставяцца да рэалістычнага мастацтва. Каб яны палюбілі мастакоўскую працу. Каб былі дысцыплінаваныя. Трэба навучыць кожнага не толькі працаваць, але вучыцца ўсё жыццё, удасканальваць свае здольнасці, быць для сябе самым патрабавальным крытыкам...

Пра сваіх сёлетніх выпускнікоў Ірына Іосіфаўна Глазава расказвае з хваляваннем:

— Такія розныя яны ўсе. Кожнага трэба зразумець. Кожнаму трэба памагчы выявіць лепшае ў сваёй творчай натуры... Навучыць прафесійнай пісьменчасці, прышчапіць любоў да мастацтва. Сам шмат чаму вучышся, калі вучыш іх. І, шчыра кажучы, расставацца з вучнямі заўсёды сумна...

Высокую ацэнку выпускнікам вучылішча даў сёлета старшыня Дзяржаўнай камісіі, педагог Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Пятро Серапіёнавіч Крохалеў. Ён у часе абароны дыпломаў адзначыў добры ўзровень падрыхтоўкі выпускнікоў, разнастайнасць тэматыкі іх работ, разнастайнасць індывідуальных творчых манер.

— Дзецям патрэбна мастацтва, патрэбны людзі, здольныя запаліць у іх любоў да прыгожага, — гаворыць Пятро Серапіёнавіч.

Цяпер у вучылішчы пачынаецца новы навучальны год. Працягваецца напружаная, штодзённая работа па выхаванню мастацкіх кадраў для рэспублікі. Работа пачэсная, высакародная.

Эмілія АРАВА.

## СКРЫПКА ГАЛЬЯНА — У МІНСКУ

У Мінску знойдзена скрыпка работы вядомага італьянскага майстра сярэдзіны XVIII стагоддзя Фернанда Гальяна, паслядоўніка славутага Антоніо Страдзівары.

Загадчык кафедры струнных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі дацэнт Н. Браценнікаў, які выявіў гэты каштоўны інструмент у сям'і музыканта-аматара, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА:

— Гэта вельмі рэдкая знаходка, і яна, натуральна, выклікала вялікую цікавасць у спецыялістаў і музыкантаў. Устаноўлена, што скрыпка зроблена Фернанда Гальяна ў лепшую пару яго творчасці, калі яму было 36 гадоў. Ён быў старэйшым сынам Мікалая Гальяна, таксама вядомага скрыпічнага майстра, працаваў па мадэлях свайго дзеда Аляксандра Гальяна і свайго бацькі, а пазней у стылі Страдзівары. Да гэтага стылю адносіцца і мінская знаходка.

Фернанда рабіў інструменты канцэртнага плана. У падрабязным чэшскім каталогу італьянскіх інструментаў скрыпка, знойдзеная ў Мінску, не ўлічана. Адзін з лепшых савецкіх рэстаўратараў струнных інструментаў А. Качаргін даў знаходцы высокую ацэнку. Цудоўны яе гук, лад. На ўнутраным баку ніжняй дэкі захавалася наклейка — свайго роду фірменны знак італьянскага майстра: «Фернандус Гальяна, сын Мікалая. Зроблена ў Неапалі ў 1760 годзе». Удалося высветліць, што сям'я ранейшага ўладальніка набыла скрыпку ў Мінскім павеце ў 1914 годзе. Як яна трапіла сюды з Італіі — невядома...

Каштоўная знаходка пройдзе рэстаўрацыю ў Маскве. Будзе выпраўлен шэраг дэфектаў, пакінутых часам. Скрыпка ўвойдзе ў створаную нядаўна па рашэнні Міністэрства культуры БССР рэспубліканскую дзяржаўную калекцыю унікальных музычных (смычковых) інструментаў. Сюды будуць паступаць таксама ўзоры лепшых работ беларускіх майстроў.

С. РАТГАЎЗ.
(БЕЛТА).

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ПЕСЕННАЯ ІСНАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ

Адам Русак шырока вядомы ў нашай краіне як паэт-песеннік. Думаецца, калі б за сваё творчае жыццё ён не напісаў больш ніводнай песні, акрамя дзвюх: «Бывайце здаровы» і «Лясная песня» («Ой, бярозы ды сосны...»), — то і тады яго імя трывала б увайшло ў гісторыю роднай паэзіі. Але ім яшчэ напісана і «Толькі з табою», і «Не шукай», і «Застольная», і «Мой край», а таксама шмат вершаў. У першых жа вершах Адам Русак вызначыў сваю творчую і грамадзянскую пазіцыю, а таксама кола тых тэм, да якіх ён будзе звяртацца і развіваць усё жыццё.

У вершы «Зімовы вечар» (1930) А. Русак вуснамі дзяўчыны выказвае яе настрой, яе адчуванне смутку.

Вышыла я кветку,
Пачала другую,
А яго паходкі
За акном не чую.
Цёмна ночка, цёмна,
На дварэ завея.
А ў грудзях чагосьці
Сэрца палянее.

А вось радкі з верша «Падары мне шчасце» (1970):

Ты скажы такое слова,
Каб душа спявала,
Ад катарага б на сэрцы
Рана зажывала.
Ты сплялі з вясновых
кветак
Радасці узоры,
У цябе ж такія вочы,
Што душу азораць.

Ён успрымаецца як працяг, як другая частка папярэдняга верша: а паміж імі адлегласць у сорак гадоў. Калі ў першым вершы сэрца паранена, то ў другім — просьба ў спагадзе, якая б загаіла рану на сэрцы; калі там нараканне, то тут непасрэдны зварот да каханага, каб ён быў поруч і развеяў горкую журбу. У абодва вершы як састаўныя часткі вобраза ўваходзяць кветкі: «Вышыла я кветку, пачала другую...» — у першым і «Ты сплялі з вясновых кветак радасці узоры...» — у другім. Варта заўважыць, што гэта не тоесныя паняцці: адны кветкі мёртвыя, кветкі скрухі, другія жывыя, кветкі святла і надзеі. Яны дамалёўваюць агульную карціну і выказваюць душэўны стан лірычнага героя.

Вершы А. Русака народныя па сваёй сутнасці. Паперышае, яны маюць традыцыйную фальклорную аснову, па-другое, у іх заўсёды знойдзеш прыкметы нашай рэчаіснасці.

А. Русак не проста пераймае асаблівасці фальклорных песень. Гаворачы з народам на яго мове і яго вобразамі, зразумелымі і блізкімі ўсім і кожнаму, паэт у той жа час гаворыць пра сучаснасць. Яго вершы падобныя між сабой фальклорнай аздобай, яны своеасаблівыя варыяцыі ўстойлівых сітуацый — таму так пераклікаюцца ў зборніку раннія і позднія вершы паэта.

Праўда, напачатку А. Русак час ад часу хібіў стылізацыяй пад фальклор. І гэта здаралася тады, калі ён мадэліраваў свае вершы па вядомым узоры без уліку тых змен, якія адбыліся ў жыцці краіны. У «Выбраным» адзін такі верш — «Зімовы вечар». А менавіта спалучэнне традыцыйна-фальклорных форм з сучасным зместам характэрнае для творчага почырку Адама Русака.

Паэт нарадзіўся і рос ля Нёмана, і Нёман для яго стаў нечым невымерна большым, чым проста рака. Недарма на працягу ўсёй сваёй творчасці А. Русак звяртаецца да яго вобраза. У «Выбраным» некалькі «нёманскіх» вершаў. У вершы «Закрасуйся, Нёман» перад намі паўстае рака-працаўнік:

Закрасуйся, Нёман,
Каласамі ніў,
Што вясновым ранкам
Росамі паіў.
Закіпі ў турбінах,
Вірам закруці,
Гарады і хаты
Сонцам асвяці.

Вобраз Нёмана атрымлівае ў паэта ўсё новую і новую інтэрпрэтацыю. Песня нібы паядналася з няспыннай плынню ракі, жывіцца яе крыніцамі.

Мяне віры твае паілі
Вадой гаючаю крыніц,
Мяне лугі твае жывілі
Духмяным сокам медуніц.

І сілу даў ты мне такую,
Каб буры я перамагаў,
А сэрцу даў струну
жывую,
Каб пра цябе я век спяваў.
(«Мой Нёман»).

У зборніку часта сустракаюцца вершы і строфы, якія пачынаюцца словам «люблю».

Люблю цябе я, лес
кашлаты,
У ціхім шэлесце бяроз...
Люблю твае жывыя хвалі
І твой траскучы
крыгаход...
Люблю лугі квяцістыя,
Як закрасуе май...
Я люблю бярозку,
Што пяе з вятрамі...

Па сутнасці, увесь зборнік — прызнанне ў любові да Радзімы.

А. Русак не шукае ні нейкіх «звышсучасных» вобразаў, ні складаных канструкцый. Яго паэзія простая і натуральная, але пры ўсёй прастаце вобразаў не аднастайная.

На пачатку сваёй размовы я называў дзве песні Адама Русака — «Бывайце здаровы» і «Лясную песню». Яны адлюстравалі цэлыя гістарычныя этапы жыцця краіны, палюбіліся народу і з поўнай падставай уключаны ў «Анталогію беларускай народнай песні». Няма патрэбы цытаваць радкі з гэтых вядомых твораў, прыгадаю толькі, што пісаў пра песню «Бывайце здаровы» Аляксандр Твардоўскі: «Гэта даваенная народная беларуская песня савецкіх гадоў. Словы яе напісаны адным сельскім настаўнікам у першыя гады будаўніцтва калгаснага ладу і набылі затым шырокае распаўсюджанне. У немудрагелістай жартоўнай форме пажадання гаспадарам ад гасцей, якія ад'язджаюць з калгаснай гулянкі, у ёй выказана вялікая любоў да роднага краю, радасць сумеснай і дружнай працы на свабоднай зямлі, упэўненасць людзей у сваёй будучыні і многае іншае, як гэта заўсёды бывае ў добрай песні». І далей: «...песні «Бывайце здаровы» і «Лявоніха» ў любым напамінку ў дні вайны гучалі як сцвярджэнне нацыянальнага духу захопленай, але нескаронай Беларусі...»

Завяршаючы гаворку, хочацца сказаць, што лепшыя творы гэтай кніжкі жывуць разам з народам, як яго духоўны набытак.

**Алесь РАЗАНАЎ.**

Адам Русак. «Выбранае». Песні і вершы. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск. 1972. Бібліятэка беларускай паэзіі.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ





**Гэтыя малюнкі зрабіў Барыс Забораў да «Казкі пра цара Салтана» А. С. Пушкіна. Ілюстрацыі стылізаваныя пад старажытна-рускую мініяцюру. Яны выклікалі нямала спрэчак: так Пушкіна яшчэ не ілюстравалі. Але ж нельга не пагадзіцца, што малюнкі Б. Заборава — прыгожыя...**

# ПЕРАЖЫТАЕ І НАДУМАНАЕ

У АСНОВУ аповесці Рыгора Няхая «Туман над стэпам» леглі аўтабіяграфічныя падзеі. Пісьменнік ашчадна абыходзіцца з фактычным матэрыялам, вялікую ўвагу ўдзяляе раскрыццю ідэйнай задумы.

Успомнім той эпізод з аповесці, дзе паказваецца, як партызаны пераганяюць праз Дняпро табун коней. Дняпроўская строма зносіць іх уніз. Коні заблытваюцца ў сетках, якімі была перагароджана ў гэтым месцы рака, і тонуць. Гэты канкрэтны выпадак узнімаецца на вышыню мастацкага абагульнення, успрымаецца чытачом як асуджэнне вайны, як асуджэнне ўсякага гвалту над жыццём.

Адметныя і тыя старонкі аповесці, дзе аўтар паказвае ўсенародную любоў украінцаў да свайго вялікага Кабзара...

Аднак не ўсюды матэрыял падсвечваецца пісьменніцкім роздумам — найчасцей у аповесці пераважае апісальнае ўзнаўленне падзей без іх належнага эстэтычнага асэнсавання. У творы выступаюць кулямётчыкі, радысты, разведчыкі, камандзіры, радавыя партызаны, але слаба адчуваюцца непаўторныя індывідуальнасці, для якіх уласцівы свой склад мыслення, свае думы і пачуцці, мары і спадзяванні. Пра смерць савецкіх патрыётаў гаворыцца павярхоўна, аўтар сухімі, канцылярскімі фразамі паведамляе пра гібель сваіх герояў.

«Я зірнуў з-за дрэва. У жыце, схапіўшыся за нагу, корчыўся Вано. Да яго падбягалі карнікі. А праз хвіліну пачуўся аглушальны выбух гранаты і крык раненых. Значыць, Вано да канца выканаў свой абавязак, не даўся жывым у рукі фашыстаў», — піша пісьменнік пра смерць аднаго з партызанаў, а праз некалькі старонак амаль тое ж самае паўторыць пра гібель другога: «Калі яны (фашысты. — **Я. Л.**) абступілі раненага палкоўніка, пачуўся выбух лімонкі, скавытанне і енкі немцаў.

Загартаваны воін да канца выканаў свой абавязак».

Тут ёсць канстатацыя факта, ёсць яго адлюстраванне, але няма болю, няма пранікнення. Чытачу цяжка вызначыць свае адносіны да некаторых герояў, бо аўтарскія характарыстыкі часамі разыходзяцца з тымі рэальнымі дзеяннямі, праз якія героі самараскрываюцца.

Так атрымалася, на нашу думку, з ідэйна - эстэтычным асэнсаваннем вобраза начальніка партызанскай разведкі. Тыя грамадскія функцыі, якія выконвае Кузьма Савельевіч, дазвалялі гэтаму вобразу ўзяць на сябе ў сістэме твора значную мастацкую нагрузку. Сапраўды, усе тыя найбольш адказныя і небяспечныя заданні, якія праводзіць партызанская контрразведка, накіроўваюцца рукой Кузьмы — Кузьмы Савельевіча: і падрыў чыгуначнага моста праз Дняпро, і арганізацыя законспіраванай агентуры ў Кіеве і ў вобласці, і каардынацыя радыёсувязі, і, галоўнае — людзі, якія папаўняюць партызанскія атрады або ідуць на заданне ў варожае пекла. Ад выбару рашэння такіх людзей, як Кузьма Савельевіч, залежалі тысячы чалавечых лёсаў.

У мастацкіх адносінах фігура Кузьмы надзвычай выйгрышная, таму што гэтаму чалавеку прыходзіцца дзейнічаць у самых складаных абставінах, якія нараджаюцца перыпетыямі ваеннага часу. Ён мог бы перарасці ў вобраз найвялікшага трагічнага гучання, стаць значным мастацкім адкрыццём пісьменніка. Аднак Рыгор Няхай пайшоў па лініі найменшага супраціўлення: там, дзе Кузьму Савельевічу трэба дзейнічаць у складаных сітуацыях, дзе яму трэба прымаць самастойнае адказнае рашэнне, там аўтар пазбаўляе яго права голасу. Так атрымліваецца, напрыклад, у тым выпадку, калі Кузьма павінен вырашыць пытанне аб прыёме Людчыка і яго таварышаў па акружэнні ў партызанскі атрад.

Часам, нягледзячы на аўтарскую дэкларацыю аб чалавечнасці Кузьмы Савельевіча, ён паказвае сябе душэўна халодным і абыякавым да чалавечага лёсу. На ўвазе маецца, перш за ўсё, самазабойства разведчыка-капітана і рэакцыя Кузьмы Савельевіча на гэты выпадак.

Недастаткова ўяўляе сабе аўтар і ідэйна-эстэтычную функцыю цэнтральнага вобраза аповесці — Людчыка. У «Тумане над стэпам» цэлы вялікі раздзел прысвечаны паказу таго, як падпольшчыкі праводзяць рэпетыцыю будучага выступлення на ворага. Кажучы па праўдзе, нават мне — чытачу, не знаёмаму з трывогамі ваеннага часу, — кідаецца ў вочы яўная непатрэбнасць гэтай рэпетыцыі. Сапраўды, ва ўкраінскіх сёлах стаяць нямецкія гарнізоны, а Людчык без усякага сумнення аддае загад выступаць у стэп толькі дзеля таго, каб праверыць боегатоўнасць будучага партызанскага атрада.

Вядома, гэта выступленне не можа быць незаўважаным для немцаў. Некаторыя падпольшчыкі, у тым ліку і Людчык, трапляюць у варожыя рукі, аднак пазбягаюць небяспекі да неверагоднасці лёгка.

Не на вышыні знаходзіцца гэты герой і тады, калі ў стэпавым раёне пачынае партызанскую барацьбу. Гінуць дзесяткі савецкіх патрыётаў, не прыносячы адчувальных страт ворагу. Твор толькі б выйграў у мастацкіх адносінах, калі б аўтар надаў свайму герою больш самастойнасці, ініцыятыўнасці, як у дзеянні, так і ў слове, пачуцці, думцы. Сказанае ў адносінах да Людчыка адносіцца і да іншых вобразаў. Бо, сапраўды, усе героі аповесці выступаюць у асноўным папярэдне запраграміраванымі, пазбаўляюцца самастойнасці і арыгінальнасці. Выглядаюць яны нейкімі бясколернымі. Нават Грэчка, які, паводле аўтарскай задумы, павінен быў атрымацца вельмі каларытнай фігурай — усё ж такой не стаў. Хоць пісьменнік неаднаразова падкрэслівае, што яго герой і філосаф, і жартаўнік, і фантазёр, але ён не становіцца любімцам чытача: жарты пласкаватыя і ардынарныя, і робіцца сумна і ніякавата за гэтага чалавека.

Па нацыянальнасці Грэчка — украінец, але я, напрыклад, нічога ўкраінскага ў ім не заўважыў: тыя прымаўкі, якімі ён часам сыпле да толку і без толку, можна вычытаць у папулярным зборніку беларускага фальклору. А можна ж было расквеціць яго гутарку тымі самацветамі, на якія так багата ўкраінская мова, і якія былі б блізкімі і зразумелымі беларускаму чытачу і без непатрэбнага перакладу...

Канец аповесці сведчыць пра тое, што Рыгор Няхай думае прадоўжыць працу над тым матэрыялам, які лёг у аснову «Сарочага лесу» і «Туману над стэпам». Будзем спадзявацца, што аўтар у наступным творы дасць нам не толькі апісанне ўбачаных на вайне падзей, але і паспрабуе па-мастацку асэнсаваць іх і пераплавіць у хвалюючы, эмацыянальна насычаны і завершаны ў ідэйна-эстэтычных адносінах твор. Лепшыя старонкі аповесці «Туман над стэпам» сведчаць аб тым, што пісьменнік здольны на гэта.

**Яўген ЛЕЦКА.**

Рыгор Няхай. «Туман над стэпам». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.



Аляксандр
КАПУСЦІН

АПАВЯДАННЕ

# апошняе слова





Перад тым, як ступіць за брамку, Мікола трохі пастаяў на падворку, быццам назаўсёды развітваўся з родным кутам. Да яго падляцеў Жучок. Даверліва скавытнуў, весела віляючы хвастом, цeрануўся аб нагу. Але Міколу было не да яго, ён змрочна пазіраў на сабаку, на ўсё, што траплялася на вочы.

На двор выйшаў бацька. Прарэзліва рыпнулі дзверы — бы разанулі па Міколавым сэрцы. Бацька закурыў, некалькі разоў запар глыбока зацягнуўся дымам. Пацёр цыгарэту ў пальцах і шпурнуў яе пад ногі, сярдзіта ўтаптаў абцасам у зямлю. Злосна сказаў:

— Ну, развітаўся? Пайшлі, арыштант.

І ўжо не азіраючыся на сына, ён шпарка пакрочыў з двара. Дробненька тупаў здатнымі да жвавай хады нагамі і бурчэў:

— Во так табе, неслух, праводзіны мае, калі і сам зганьбіўся і бацькам сэрца рвеш. Во так табе...

□

У вузкай доўгай зале было людна. Трывога не пакідала Міколу, расла, студзіла нутро. Нешта сумна-пакорлівае і насцярожліва-зацятае было ў ягонай паставе. Ён асцярожна, нібы штосьці вельмі кволае і далікатнае, трымаў старую матроскую бесказырку. Каўнер шэрай кашулі быў расшпілены, і на грудзях віднеўся трохкутнік палінялай матроскай цяльняшкі.

На пытанні суддзі Мікола адказваў неахвотна. Буркне, і толькі далёка ў шэрых зрэнках ледзь-ледзь заблішчаць нейкія халодныя жарсцвінкі.

Народны суддзя Максім Сцяпанавіч, сярэдніх год чалавек, іншы раз перад тым, як запытаць, заклапочана моршчыў лоб, нейкі час маўчаў, думаў. У зале панавала цішыня. І ад маўчання суддзі, і ад гэтай цішыні прысутным рабілася нялёмка і трывожна.

Утаропіўшыся некуды паверх галавы суддзі, маўчаў Мікола. Маўчаў ён і тады, калі перад судом з'явіўся сведка — міліцыянер Сташук.

Сташук расказваў, што апоўначы, ідучы берагам, ён яшчэ здаля заўважыў, як чалавек з ношкай на спіне кінуўся да рэчкі. І хоць месяц схаваўся за хмару і цяжка было ў цемры разабраць, дзе што, ён усё ж угледзеў хлопца і затрымаў яго.

Раніцай высветлілася: злодзей вырваў прабой у дзвярах кладоўкі і забраў матор. Лодку адвязаў, падабраўшы да замка ключ.

Увесь час, пакуль міліцыянер гаварыў, Мікола круціў у руках бесказырку, спрабаваў нават чысціць яе. Максім Сцяпанавіч зрабіў яму заўвагу, каб слухаў. Ён узняў галаву і нейкі час сядзеў нерухома, глядзеў на Сташука, але ў яго позірку па-ранейшаму не было ніякіх адзнак узрушанасці. Думаючы аб нечым сваім, ён зноў схіліўся над бесказыркай.

Сведка, пакрыўджаны такой наўмыснай няўвагай, абурыўся:

— Сорамна так, грамадзянін Скакун! Сорам і ганьба — красці...

Раптам ён успомніў, як маці Міколы кляла яго, што пацягнуў сына ў міліцыю — даў бы па карку ды і выпусціў. Сташук глытнуў сліну, нібы яму хацелася прагнаць смагу, развёў рукамі:

— Ну, вы паглядзіце на яго, грамадзяне суддзі, з ім чалавек гаворыць, а ён? Хоць бы што — свой стары картуз гладзіць...

Мікола зноў узняў галаву, яго тонкія адтапыраныя вушы паружавелі. Скуласты, смуглявы твар з аблупленым носам нечакана расплыўся ва ўхмылцы.

— Які яшчэ картуз? Хіба ж матросы... у картузах ходзяць?

— Ён ужо матрос... Бачылі вы яго? — быццам апелюючы да прысутных, Сташук абвёў позіркам залу і, яшчэ больш абурыўшыся, узвысіў голас:— Вы зразумелі мяне? Я ў вас, гора-матрос, пытаюся, зразумелі?

Хлапец прыжмурыўся, лізнуў языком асмяглыя губы. Кінуў:

— Зразумеў.

— Ну, вось так лепш. Лепш,—Сташук, усведамляючы, што ён сумленна і да канца выканаў свой абавязак, супакоіўся. Але, атрымаўшы дазвол сесці, раптам неяк трывожна і заклапочана паглядзеў на падсуднага:

— Чуеш, адумайся, хлопец, адумайся. Ды бярыся за розум.

Ускінуў пабеленую сівізной галаву, не па ўзросту жвава павярнуўся і пайшоў.

Потым паклікалі Астапа Скакуна — бацьку падсуднага. Астап борзда прашыўся між людзей, хуценька пратупаў да судовага стала.

— Па вашаму выкліку з'явіўся,— адрапартаваў.

— Што вы, сведка, раскажаце суду ?

— Што раскажу? Тое, што і следчаму казаў. Дзядзька гэтага падшыванца — марак, ва ўсім вінаваты, — хутка загаварыў Астап. — Прыязджаў да нас на пабыўку, дык вы ведаеце, грамадзяне суддзі, да пеўняў заседжваўся з ім: усё пра мора яму далбоніў, пра караблі тыя. З таго вось усё і пачалося... Дзядзька паехаў, а ён,— Астап кіўком галавы паказаў на сына,— нават са сну збіўся. Разам з курамі ўстае і на прыстань шыбуе. Пакуль у школу не ісці — усё на рэчцы той. Я язык натрудзіў, казаўшы: «Кінь, Мікола, гэтыя дурыкі, бярыся за навуку!» Шморгне носам, адвернецца. Але бачу: урэшце, за кніжкі сеў. Ну, думаю, узяўся за розум хлопец. Чытае. Ды дзе там! Ён, аказваецца, пра гэтае, пра марское дзела...

Бацька сурова прабег вачыма па доўгай, гнуткай постаці сына.

— Во сёлета ён скончыў васьмігодку. Прыносіць дадому пасведчанне і заяўляе: «Буду паступаць у рачное рамеснае вучылішча». Ах ты, кажу, свавольнік! Будзеш рабіць, што загадаю. Не хочаш вучыцца — асвойвай бацькава рамяство, садзіся за машыну і круці баранку. Дык жа яму хоць кол на галаве чашы: у рамеснае вучылішча — і толькі.

Астап не слухаў, як асуджальна загула зала, не звяртаў увагі на вострыя позіркі суддзі. Шчуплы, вяртлявы, як верабей, ён мітусліва пераступаў з нагі на нагу і апантана даводзіў сваё.

— Але ў рамеснае я не пусціў яго. У мяне так: сказаў — адрэзаў. Гляджу, здаецца, паразумнеў мой марак, прыціх. Ну, думаю сабе, дайшлі да яго бацькавы словы. Ды тут якраз панаехала на канікулы хлопцаў, што ў тым рамесным вучацца. Згаварыліся яны і паплылі на лодках па Дняпры ў нейкае падарожжа, а яго — не ўзялі. Ты ж, кажуць, усё роўна да нас вучыцца не пойдзеш... А потым — гэтая вось непрыемнасць надарылася.

Астап трохі памаўчаў, збіраючыся з думкамі.

— Калі, грамадзяне суддзі, будзе ласка ваша, каб не пасадзіць гэтага лайдака ў турму, я ўжо за яго вазьмуся. Я яго... у гараж сілком, сілком зацягну. Я яго... Бо калі што якое — сапсуецца ён там, у калоніі. Усе ж гавораць...— Астап памкнуўся да сына, нібы хацеў прыгладзіць растрапаную чупрыну ды адразу ж апусціў руку, вінавата зірнуў на Максіма Сцяпанавіча.

Максім Сцяпанавіч аб'явіў судовае следства закончаным, даў апошняе слова падсуднаму. Хлопец усхапіўся, зморшчыўся, бы глынуў чаго горкага. Але—маўчаў.

— Прасіся, кажу, прасіся,—нервова засіпеў у яго за плячыма бацька. А той нібыта і не чуў нічога, нібыта быў думкамі ад усяго далёка-далёка. Каб неяк разварушыць падсуднага, Максім Сцяпанавіч запытаў:

— Ці ўсвядомілі вы агіднасць свайго ўчынку?

Мікола буркнуў:

— Ага, усвядоміў...

Выцер твар.

Суддзя пазіраў яму ў вочы і яго ўсё больш апаноўвала дзіўнае ўражанне: быццам ён здаўна, з маленства ведаў гэтага хударлявага з доўгай шыяй хлапца—відаць, па характары добрага, пакладзістага, але затурканага і таму не вельмі ахвочага да размоў.

Сцяпана Максімавіча заўсёды хвалявала спрадвечная загадкавасць чалавечых сэрцаў, але ён, звыклы да сваёй нялёгкай працы, да свайго адказнага абавязку, стрымана дапытваўся:

— Што яшчэ скажаце?

Астап Скакун, бачачы, што сынок не слухае яго і не будзе прасіцца, сам усхапіўся з лаўкі:

— Дазвольце яшчэ мне пару слоў. У яго заўсёды... бы бульба тая ў роце. Грамадзяне суддзі, ён зразумеў ужо, усё зразумеў... А калі не—дык потым я дапамагу яму ў гэтым... Будзьце ўпэўнены... Ну, а ты скажы што-небудзь, сынок!

Хлапчук заварушыўся, зірнуў на Максіма Сцяпанавіча спадылба.

— Што сказаць? Пра аборку скажу... Каб яна не гнілая была ды не парвалася, дык завёў бы матор і дзядзька міліцыянер мяне б ніколі не злавіў. Цяпер я дзе-небудзь каля Кіева плыў бы!

Людзі разгублена прыціхлі, насцярожыліся. Двое сярдзіта заспрачаліся... На іх зыркнуў цыган, які сядзеў побач, і яны адразу прыціхлі. Цыган быў гарбаносы, барадаты, у выцвілай гімнасцёрцы. Ён адразу, як толькі з'явіўся ў зале, кінуўся Максіму Сцяпанавічу ў вочы. Суддзя ведаў яго. Калісьці ён за пазыку, атрыманую ў дзяржавы, купіў на ўскраіне мястэчка хаціну. Працаваў возчыкам у канторы па нарыхтоўцы жывёлы, падрабляў там-сям: каму паліва прывязе, каму агарод узарэ. А пазыку не вяртаў. Давялося спаганяць яе ў прымусовым парадку.

Увесь час, пакуль ішоў суд над Міколам Скакуном, цыган быў маўклівы і нейкі задумлівы. А тут раптам закоўзаўся на лаве, загаварыў, бліскаючы вачыма:

— Грамадзянін суддзя, дай мне сказаць. Я праўду скажу. Адпусці хлопца дадому! Ці ж ён каня ўкраў? Не, не каня—павалок жалеза... Вось каб каня!

Пачуўся добразычлівы рогат. Твары ў людзей пасвятлелі: кожны нібы скінуў нейкі цяжар з душы... Не тоячы болей сваіх думак, меркаванняў. І былі чамусьці яны не такія ўжо суровыя, як раней.

□

Там, дзе зайшло сонца, неба яшчэ было светлае, хоць на зямлю ўжо клаўся прыцемак. Астап Скакун у майцы, босы, сядзеў на дубовым кругляку, што некалі яшчэ Астапавым бацькам меціўся ў падмурак на штандары. Пасля ўсяго дзённага тлуму і хвалянняў Астапу хацелася пабыць аднаму, паразважаць над тым, што адбылося... Ён пазіраў за раку. Там у месячнай сцішанасці загусаў туман, заўзята рыпелі драчы. Часам яны сціхалі, і тады Астап міжвольна ўзіраўся ў цёмную грыву лазняку, бы чакаў, што там вось-вось абзавуцца салаўі, якія вельмі залівіста цёхкалі на пачатку лета.

Не заўважыў, калі стаў думаць, як заўтра са спрытам колішняга франтавога шафёра будзе накручваць неабходныя для плану тонакіламетры, пасадзіўшы побач з сабой у кабіне Міколу. Не, цяпер ён возьмецца за лайдака, вачэй з яго не спусціць. Столькі перажыў з-за яго і сораму і трывог!..

Успамінаць сённяшні дзень Астапу было прыкра, але, магчыма, таму, што ён гнаў ад сябе ўспаміны пра суд, яны настырна лезлі ў галаву.

...Пачуўшы, што прысуджаны на два гады пазбаўлення волі ўмоўна, Мікола разгублена заўсміхаўся, а на вачах заблішчэлі слязінкі. Ды ён не хаваў іх, не саромеўся, бо тая душэўная палёгка, якая нечакана прыйшла да хлопца, была вартая слёз.

Суддзя яшчэ нешта гаварыў, а Мікола ўскінуў на галаву бесказырку ды адразу ж спахапіўся, зняў. Раз, другі сцепануў вострым худым плячом, нібыта хацеў нешта сказаць, але не знаходзіў слоў. Здавалася, што маўчаць яму невыносна, што нясцерпна хочацца падзяліцца самым патаемным. У той момант Астапу нямаведама чаму падалося недарэчнае: калі б вось зараз знік гэты незвычайны бляск у сынавых вачах, у зале адразу ж стала б цёмна...

...Па лузе шаснуў ветрык-нізавік, скубануў, загойдаў кусты. Недзе далёка пачуліся навальнічныя грымоты. З захапленнем, бязладна заходзіліся драчы. Астап слухаў іх і думаў; якія ж словы карцелі тады Міколу? Можа ўсё пра тое ж, пра сваю мару: як ён успеніць маторным вінтом хвалі на Дняпры? Як апантана хоча стаць матросам? І ў каго ён такі ўпарты? Нікога не слухае... Падавай яму мора—і ўсё... Бацькі гэтага мора не бачылі і не згубілі нічога, дзяды спрадвеку на зямлі... Дык не, убіў сабе ў галаву нямаведама што хлопец. Без розуму ідзе ў жыццё. А можа і не зусім так, можа і не зусім ён разумее сына? Дарэмна лаяўся?

—Астап, ці ты збіраешся класціся спаць, ці не?—сонна гукнула з хаты жонка.

Яе санлівы голас зусім раззлаваў Астапа: і спіцца ж ёй, скажы ты, пасля такой бяды? А ў судзе ўсё войкала, ўсё млела... У яго было адчуванне як у чалавека, які сам пакуль што не ведае, чаго шукае, які на нешта забыўся і хоча вярнуцца за тым нечым ужо ў дарозе. Ён яшчэ не ўсведамляў, што падсвядома пачынае жыць новым, хай пакуль невыразным, хвалюючым пачуццём пра лёс сына.

# ЁСЦЬ ВОПЫТ, ЁСЦЬ НАТХНЕННЕ

Віталій ЧАЦВЯРЫКОЎ,

рэжысёр студыі «Беларусьфільм»



ЧЫТАЮЧЫ Пастанову ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі», кожны з тых, хто ўдзельнічае ў стварэнні фільмаў, абдумвае зробленае і вялікімі студыйнымі калектывамі, і ім самім. Гэта натуральна: каб наперад працаваць па высокіх крытэрыях, варта азірнуцца, узважыць і здабыткі, і пралікі, прааналізаваць добра табе вядомае. Бо экранныя творы — плён хоць і значных па колькасці творчых груп, але маюць выразныя адбіткі пэўнай мастакоўскай індывідуальнасці: у адным выпадку — сцэнарыста, у другім — рэжысуры, у трэцім — віртуознага аператара і г. д.

Асабіста я пачынаў у мастацкім кінематографе. Здымаўся як выканаўца роляў у фільмах «Юнацтва бацькоў», «Калыханка»... Потым мне захацелася паспрабаваць свае сілы ў рэжысуры. Звязаў свой лёс з дакументальным кіно. Думаю, гэта ўжо надоўга, калі не на ўсё жыццё. Праўда, часцей бывае наадварот: чалавек з дакументальнага жанру прыходзіць у мастацкае кіно. Але я не шкадую аб сваім выбары. На маю думку, дакументальны жанр узбагачае чалавека як рэжысёра і грамадзяніна. Выяўленчыя сродкі тут такія багатыя і разнастайныя, што адкрываюць прастору для смелых пошукаў і здзяйсненняў. Да таго ж лепшыя дакументальныя стужкі маюць значэнне палітычнага дакумента часу.

Скажам, на прыкладзе герояў Вялікай Айчыннай вайны выхоўваецца і будзе выхоўвацца моладзь. Таму паказ усенароднай барацьбы падпольшчыкаў і партызан у творах кінематаграфіі набывае асабліва важнае гучанне. З увасабленнем гэтай тэмы не трэба марудзіць. Час ідзе, а з ім адыходзяць былыя ўдзельнікі супраціўлення фашызму. Нашчадкі не даравалі б нам, калі б мы, дакументалісты, не адлюстравалі баявыя справы бацькоў на экране.

Хацелася б адзначыць яшчэ адну прапагандысцкую функцыю дакументальнага кіно. Справа ў тым, што буржуазныя ідэолагі прыніжаюць значэнне падпольнага і партызанскага руху, у прыватнасці, і ў Беларусі. Яны часта сцвярджаюць, нібы барацьбу вялі асобныя, разрозненыя групы нічым не аб'яднаных паміж сабой людзей, якія не мелі яснай палітычнай мэты, а толькі помсцілі ворагу за асабістыя крыўды.

Таму зазначу, што і наш шматсерыйны фільм «Руіны страляюць» стварыўся як своеасаблівы адказ фальсіфікатарам гісторыі. Мы стараліся раскрыць крыніцы патрыятычнага подзвігу народа, складанасць і небяспечнасць барацьбы на часова захопленай тэрыторыі, паказаць самаадданасць савецкіх людзей. Аўтарскі калектыў імкнуўся праз усе шэсць серый фільма пранесці думку аб тым, як гітлераўцы не здолелі і не маглі зламаць народную еднасць. Такой рашучай барацьба супраць фашызму была таму, што яе ўзначальвалі камуністы-ленінцы.

Зразумела, у выбары, распрацоўцы і ўвасабленні тэмы сродкамі кіно значная роля належыць літаратурнай першаснове. Мне ў рэжысёрскай практыцы даводзілася сутыкацца з адмоўнымі і станоўчымі прыкладамі супрацоўніцтва кінематаграфістаў са сцэнарыстамі. Такая праца вымагае ўзаемаразумення паміж прадстаўнікамі літаратурнага цэха і кінематаграфістамі. Тут магчымы і гарачыя спрэчкі, і рэзкія разыходжанні ў думках і намерах. Наогул літаратару трэба, мабыць, быць падрыхтаваным да «нечаканасцей», а рэжысёру — да тактоўнага абыходжання з тым, хто напісаў сцэнарый. Тут перамагае той, хто ўмее наперад «бачыць» лепшы варыянт эпізоду, сцэны, мантажнага ходу, хто мае на ўвазе не «прэстыж», а інтарэсы справы.

Да гэтага часу я не магу сабе дараваць, што ўзяўся за пастаноўку сцэнарыя «Сашы-Сашачкі». Гэта павучальны ўрок у маёй творчай біяграфіі: дарэмная трата энергіі і часу, яскравы прыклад таго, што запускаць у вытворчасць фільм па «сырым» сцэнарыі нельга!.. Як кажуць, даў сабе зарок...

Але вось сустрэўся я з журналістам В. Марозавым, і мы, як кажуць, знайшлі шляхі да сапраўднай садружнасці літаратара з рэжысёрам. Дакументальная кінастужка «Пакараны смерцю ў сорак першым» была першым прыкладам такой садружнасці. Цяпер мы супрацоўнічаем з пісьменнікамі І. Новікавым і І. Чыгрынавым. Пяты год здымаем, манціруем «Руіны страляюць». Чатыры серыі ўжо ведае грамадскасць...

Наогул у дакументальным кіно рашаючае значэнне мае пошук факта, ісціны, героя. Такі пошук — галоўнае «амплуа» журналіста. Ён глыбей ведае жыццё, штодзённа сутыкаецца з пэўнымі з'явамі, знаходзіцца ў асяроддзі людзей розных прафесій,—і ўсё гэта дае матэрыял і для кінематаграфічнага асэнсавання. Журналіст з цягам часу становіцца прафесійным сцэнарыстам, натуральна, пераадольвае «бар'ер спецыфікі» экрана, авалодвае «сакрэтамі» гэтага мастацтва. Праз такую стадыю прайшоў, дарэчы сказаць, журналіст І. Новікаў: спачатку ён пісаў дакументальную прозу, а потым гэты вопыт арганічна перайшоў у новую якасць — сцэнарную...

Я ні ў якім разе не адмаўляю ролі прафесійных літаратараў-сцэнарыстаў. Наадварот, хачу сказаць, што і яны павінны па-журналісцку глыбока вывучаць жыццё, быць шукальнікамі дакументальнага матэрыялу, патрэбнага кіно. Яшчэ лепшы вынік дае спалучэнне гэтых дзвюх прафесій — журналіста і кінематаграфіста. Літаратурны сцэнарый — не догма, гэта — аснова, якая ў залежнасці ад абставін змяняецца, прычым часам у перыяд здымак фільма.

Віктар ПОЛЯК

# ЗАКАЗНЫ ФІЛЬМ. ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

СЯРОД стужак, прызначаных спрыяць пашырэнню эканамічных ведаў і папулярызацыі перадавога вопыту, ёсць і так званыя «заказныя». Коратка кажучы, гэта тыя фільмы, якія больш глыбока даследуюць прадмет. Калі хранікёры і дакументалісты часам аддаюць больш увагі аператыўнасці, імкнуцца падкрэсліць сюжэт і выразныя кадры («прыгожыя»), то стужка, зробленая па распрацаванай заказчыкам анатацыі, мае на мэце грунтоўны і па-навуковаму сталы аналіз факта, метаду, прыёму, рацыянальнай прапановы. Зразумела, і тут патрэбны кінематаграфічна цікавы сюжэт і прыгожыя кадры ў разумным мантажы, але ўсе выяўленчыя сродкі падначальваюцца яснай, скажам, інжынернай ці агранамічнай думцы.

Звычайна на працягу года аб'яднанне «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» па заказах міністэрстваў і ведамстваў краіны выпускае каля 17 карцін. Сёлета іх будзе 14 (26 частак).

**Варта разгледзець—хоць бы некаторыя тэндэнцыі, якія ўзнікаюць у працэсе стварэння такіх фільмаў. Ды і слушнае пытанне—ці мэтазгодны бывае часам заказ? Сродкі ж на вытворчасць заказнога фільма выдаткоўваюцца немалыя!.. Рэжысёры неахвотна бяруцца за іх стварэнне, спасылаючыся на тое, што тут, маўляў, мала прасторы для выяўлення творчых магчымасцей сцэнарыста, пастаноўшчыка, аператара... Нядаўна мне давялося паглядзець некалькі карцін гэтага жанру аб'яднання «Летапіс». Былі сярод іх і такія.**

...Успыхнуў экран — пачаўся двухчастковы фільм «Беларусь — рэспубліка высакаразвітай прамысловасці». Гэта — заказ Міністэрства асветы БССР. І ўжо літаральна з першых кадраў мяне пакінула прадузятая думка аб тым, што стужка рабілася па загадзя вызначаным плане, што на экране мы адчуем элемент абавязковасці — здымай, маўляў, так, як мы хочам. Сцэнарыст А. Стаўроў, рэжысёр Ул. П. Цяслюк, аператар Ул. Ул. Цяслюк захапілі наша ўяўленне грандыёзным размахам будаўніцтва ў рэспубліцы, расказалі пра індустрыяльную Беларусь пераканаўча, цікава і, я б сказаў, паэтычна. Яны не «выконвалі заказ», чужую волю, а зацікаўлена даследавалі тэму.

Заслугоўвае ўвагі аператарская работа. Здагадваюся, што Уладзімір Цяслюк (малодшы) узбіраўся па крутых дахах, гойдаўся на пад'ёмных кранах, вісеў, прывязаны да бартавога кранштэйна верталёта і г. д. Рабілася гэта не дзеля знешняй эфектнасці кадраў: мена віта людзі прыцягваюць увагу аўтараў; стваральнікі, працаўнікі. Яны ж і з'яўляюцца галоўнымі героямі кінаапавядання.

Дзеля справядлівасці адзначым, што багаты на лічбы і факты дыктарскі тэкст, мог быць менш рытарычны і шматслоўны. Тут сцэнарыст яўна перабраў меру. Адчуваецца, што рэдактар І. Белавус недастаткова папрацаваў з аўтарам тэксту, не ў поўную меру скарыстаў парады кансультантаў.

Яшчэ фільм — «Беларуская бульба» (заказ Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР). Працаваў калектыў аўтараў — сцэнарысты Н. Кананучэнка, І. Алфімава, рэжысёр К. Красніцкі і аператар М. Южык. У анатацыі да фільма чытаем: «Задача працаўнікоў сельскай гаспадаркі ў гэтай пяцігодцы — атрымаць ураджай бульбы па 160—170 цэнтнераў з гектара. Сёння ў Беларусі ёсць гаспадаркі, дзе ўраджай дасягае 300 і нават 480 цэнтнераў бульбы з гектара».

**У цэнтры ўвагі гэтай двухчастковай тэхніка-прапагандысцкай стужкі — вопыт работы двух звеннявых: Статкевіча з саўгаса «Любанскі» і Астрэйкі з калгаса «Беларусь» Любанскага раёна. У папулярнай і, як мне здаецца, даходлівай форме аўтары шырока карыстаюцца магчымасцямі вучэбнага кіно. Яны раскрываюць асноўныя прыёмы ўздыму ўраджаю, якімі карыстаюцца вядомыя бульбаводы рэспублікі. Мэта кінадакументалістаў—данесці да працаўнікоў калгасных і саўгасных палёў сучасныя агранамічныя парады і рэкамендацыі, навучыць больш рацыянальна выкарыстоўваць прагрэсіўныя метады перадавікоў. Думаецца, што спецыялісты, усе працаўнікі сяла не без цікавасці пазнаёмяцца з працэсам прарастання клубняў, утварэння самога караняплода. Дзякуючы кінематографу, перш за ўсё мультыплікацыі, мы як бы паглыбляемся ў «сакрэты» вырошчвання гэтай культуры. Але не толькі сама тэхналогія вырошчвання беларускай бульбы—прадмет увагі аўтараў. Трапнымі лаканічнымі штрыхамі гавораць яны пра нястомных майстроў гэтай справы.**

Перш чым сказаць пра навукова-папулярны шырокаэкранны фільм «Там, дзе пачынаецца асфальт...», створаны па заказе Галоўнага ўпраўлення шашэйных дарог пры Савеце Міністраў БССР сцэнарыстамі М. Саетам і І. Пікманам, рэжысёрам І. Пікманам і аператарам М. Пальчэўскім, зноў жа вернемся да анатацыйнай даведкі, падпісанай рэдактарам М. Мартынюк: тут паведамляецца, што карціна расказвае, «як вырашаюць складаныя праблемы дарожнага будаўніцтва беларускія дарожнікі».

З фільма даведваемся, як развіваецца наша будаўнічая тэхніка, які складаны працэс вырабу жалезабетонных канструкцый, як добра механізавана ручная праца. Глядзіш на гэтыя буйнаблочныя станіны, пад'ёмныя краны, асфальтаўкладчыкі і — душа радуецца. Так, гэта наша індустрыяльнае жыццё. Але дзе, уласна кажучы, праблема дарожнага будаўніцтва, заяўленая аўтарамі ў пачатку з даволі прэтэнцыёзнай і наўрад ці дарэчнай спасылкай на... Ільфа і Пятрова («Ударым аўтапрабегам па бездарожжы!»)?! Упрыгожаная сур'ёзным каментарыем эканамістаў аб тым, што «па прычыне бездарожжа народная гаспадарка краіны траціць 4 мільёны рублёў у год», заяўка «на тэму» рэалізуецца на экране вельмі прымітыўна.

**У дыктарскім тэксце сказана, праўда, што тормазам для поспеху сталі... кампаненты, з якіх робяць асфальт. Ну, напрыклад, бітум выраблfavorableяць у належнай колькасці не проста. Адсюль і складанасці. Але мы, гледачы, адразу заўважаем, што дакументалісты замяняюць адну тэму размовы другой. Зноў паказваюць маставыя бэлькі, прагоны, скрэперы на дарогах—ідзе звычайная дэманстрацыя тэхнікі. Пераскок з аднаго аб'екта на другі. Магчыма, гэта выглядае знешне эфектна, ярка і нават часам сімвалічна, але ж—не па тэме! Як жа ўсё-такі быць з бездарожжам, таварышы заказчыкі і стваральнікі фільма «Там, дзе пачынаецца асфальт...»?**

Паўтару: не дзеля хараства ствараецца заказны фільм, а дзеля практычнай карысці. Таму ён і заказны. Таму глядзяць яго не гледачы «наогул», а тыя, для каго яго праблематыка мае практычнае народнагаспадарчае значэнне.

Відаць, і перад аўтарамі фільма «Паточны рамонт аўтамабіля ЗІЛ-130» — сцэнарыстам В. Ямбаевым, рэжысёрам М. Жданоўскім і аператарам В. Кавалёвым, якія выконвалі заказ Усесаюзнага аб'яднання «Саюзсельгастэхніка», стаяла складаная і адказная задача. Тое, што мы ў выніку бачым на экране, так сказаць, яе кінематаграфічнае рашэнне, дае падставы так думаць. Але... Вось у пачатку стужкі, яшчэ да з'яўлення цітраў, сказана, што аўтарамонтны завод у беларускім горадзе Ліда— адно з першых прадпрыемстваў «Сельгастэхнікі», дзе асвоены індустрыяльны метад рамонту новага аўтамабіля ЗІЛ-130. І мы, гледачы, маем рацыю, чакаючы ад стваральнікаў фільма грунтоўнай і цікавай гаворкі пра гэты завод, папулярнага тлумачэння таго, у чым галоўная сутнасць «новага індустрыяльнага метаду рамонту аўтамабіля». Ды і хочацца пазнаёміцца з людзьмі, іх пошукамі, скіраванымі на ўдасканаленне тэхналагічнага працэсу. На жаль, на працягу дваццаці мінут мы становімся звычайнымі і, шчыра кажучы, абыякавымі сведкамі таго, як праходзіць разборка і зборка аўтама-

НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР па сцэнарыі З. Чарнышовай стварыў спектакль аб жыцці і дзейнасці славутага венгерскага кампазітара Імрэ Кальмана — «Палымяная скрыпка». Рэжысёр і харэограф спектакля Л. Травінін, дэкаратыўнае афармленне мастака А. Марозава.

На здымку — сцэна са спектакля. (Рэцэнзія на спектакль будзе апублікавана ў наступным нумары газеты).

Фота А. КАЛЯДЫ.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ШЛЯХ МАСТАКА

«Выстаўка Мітурыча — сапраўдная падзея...»

«Карціны Мітурыча запамінаюцца сваім «я...»

«Мастак са сваім почыркам...»

«Здзіўляюся ўменню мастака выявіць такую гаму адценняў усяго двума колерамі: чорным і белым...»

«Вельмі ўважлівы і лірычны мастак. Нагадвае Паустоўскага...»

«Пачуццё тона — надзвычайнае...»

«То, мабыць, шчасце — так малявацы!..»

Гэта—запісы з кнігі водгукаў на выстаўцы графікі П. Мітурыча, якая адкрылася ў памяшканні Саюза мастакоў БССР. Словы падзякі аўтару і арганізатарам экспазіцыі, напісаныя на рускай, беларускай, украінскай, замежных мовах, можна было б прыводзіць яшчэ — іх вельмі шмат. Бо гэтая выстаўка — сапраўды падзея.

Апошні час не-не дый пачуеш, што партрэт алоўкам, мабыць, зжыў сябе, што не варта марнаваць на яго час і намаганні, калі ёсць — і не перастаюць з'яўляцца — столькі іншых прывабных і выразных мастацкіх сродкаў...

Пётр Васільевіч Мітурыч, у творчасці якога графічныя работы складаюць большую частку мастацкай спадчыны, неабвержна даказвае — варта. Варта, бо сіла ўздзеяння мастацкага твора на гледача залежыць не ад «сродкаў» наогул, а ад таго, наколькі ўмее карыстацца імі аўтар.

На выстаўцы—работы розных перыядаў творчасці П. Мітурыча. Не ўсе яны аднаго ўзроўню — ёсць вельмі ўдалыя, ёсць і слабейшыя. Яднае іх адно: пільная ўвага мастака да прадмета выяўлення, нібы заклапочанасць ім. П. Мітурыч даследуе аб'ект. І робіць гэта пароснаму: то старанна распрацоўваючы кожную дэталь малюнка («Хвалынск», серыя «Астрахань»), то, наадварот, абагульняючы яго настолькі, што ён становіцца амаль сілуэтным («Пакаёвыя кветкі», «Студэнт») і нават зусім сілуэтным («Плот», «Паркан», «Пальма. Хоста»).

Калі мастак малюе плот, адчуваецца яго імкненне «схапіць» і перадаць рытм, створаны спалучэннем нерухомых прадметаў, — калі можна так сказаць, дынаміку статыкі.

П. Мітурыч маляваў толькі з натуры. Партрэт, пейзаж, пейзажная замалёўка — вось кола яго жанраў, якія, пагадзіцеся, нельга назваць дынамічнымі ў сваёй сутнасці. Аднак рух прысутнічае ў многіх работах мастака. «Партрэт прафесара І. Сцяпанава» — хрэстаматыйны ў лепшым сэнсе гэтага слова прыклад станковай графікі — здзіўляе «цякучасцю» ліній. Яны нібы гавораць, пераклікаюцца, спаборнічаюць адна з адной — і ўсе разам дзіўным чынам падпарадкоўваюцца аўтарскай трактоўцы вобраза. Дынамікай, рытмам (які ўтвараецца ўжо не лініямі, а ўсёй кампазіцыяй) вызначаюцца работы «Малаяраславец», «Судак. Прыбярэжныя камяні», «Ля Алчака. Крым».

Характэрная для П. Мітурыча і своеасаблівая «блытанасць» ліній, калі вобраз паўстае перад намі з віхуры плаўных крывых. Гэтая «блытанасць» прарываецца ўжо ў ранніх яго малюнках — напрыклад, у «Зіме» (1915). Потым яна знікае, каб амаль праз тры дзесяцігоддзі з'явіцца зноў — большасць яго алоўкавых работ саракавых гадоў выканана менавіта так («Партрэт мастака А. Нікіча», «Партрэт Юліі Мітурыч, жонкі мастака», «Паэт Даўгін» і інш.). У работах, выкананых тушшу, гэтае буянства штрыхавой масы адыходзіць на другі план, кожная лінія гучыць асобна.

П. Мітурыч добра валодае сухім пэндзлем і часта яго выкарыстоўвае. Прынята лічыць, што толькі жывапіс можа перадаць трохмернасць прасторы, а графіцы гэта не пад сілу—аднак некаторыя работы П. Мітурыча сведчаць аб адваротным. «Хоста. Парк», «Бэз. Вясковы дворык» — танальныя перспектывы ў гэтых аркушах, зробленыя пры дапамозе сухога пэндзля, настолькі мякка нюансаваныя, што і «Парк», і «Дворык» успрымаюцца аб'ёмна.

Тушшу выкананы і малюнак «Малаяраславец. Зіма», лаканічны, дакладны, падкрэслена закончаны—ні дадаць, ні ўзяць. Ён прасякнуты настроем нейкай няяснасці, сапраўдным настроем пахмурнага зімовага дня. З той жа эмацыянальнай напружанасцю выразае мастак і традыцыйную тэму мацярынства («Маці і сын»).

Работы П. Мітурыча, развешаныя ў хparty храналагічным парадку, дазваляюць прасачыць шлях станаўлення мастака. Вось першыя, датаваныя 1914—1915 гадамі, зусім яшчэ слабыя. «Вёска. Авечы статак» — водгукі імпрэсіянізму. 1919 год: фармалістычныя «Канструкцыя», «Дэкаратыўны эскіз». «Сажалка ў лесе» — тыповы ўзор мадэрнізму таго часу. І толькі дзесьці ў канцы дваццатых гадоў П. Мітурыч знаходзіць свой стыль, становіцца «самім сабой» — такім, якім мы яго, уласна, і ведаем.

Гэту выстаўку ўжо бачылі жыхары Масквы, Ленінграда, Кіева, Львова, Харкава. Нямала цёплых запісаў пакінулі яны ў кнізе водгукаў, у якой зараз з'явіліся і словы мінчан.

М. КАЛОМЕНСКІ.

## ЗА 3 МЕСЯЦЫ — 60 КАНЦЭРТАЎ

**Пры Івянецкім Доме культуры Валожынскага раёна створаны агітпоезд «Івянец». Яго з вялікім задавальненнем сустракаюць хлебаробы, рабочыя прадпрыемстваў. За апошнія тры месяцы самадзейныя артысты пабывалі ў многіх гаспадарках раёна і за гэты час паказалі гледачам каля 60 канцэртаў.**

**Адначасова з выканаўцамі канцэртнай праграмы выязджаюць і лектары, якія знаёмяць хлебаробаў з важнейшымі падзеямі ў жыцці краіны.**

**У агітбрыгадзе ўдзельнічае каля 20 самадзейных артыстаў. З поспехам праходзяць выступленні салістаў Н. Камароўскага і Е. Сушко, якія выконваюць прыпеўкі. Актыўнымі ўдзельнікамі самадзейнасці з'яўляюцца М. Русовіч, Т. Ражкова, Т. Кіцун і іншыя.**

**На раённым аглядзе, які праходзіў нядаўна, Івянецкая агітбрыгада заняла першае месца. Да 50-годдзя ўтварэння СССР самадзейныя артысты рыхтуюць цікавую і змястоўную праграму.**

**А. ТРУСАЎ.**

З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

Р. ФІЛІПОЎСКІ

# МІНСКІЯ

*Аўтар успамінаў — вядомы савецкі мастак-графік. Жыве і працуе ў Маскве.*

СЯРОД МАІХ блізкіх сяброў быў выдатны чалавек і цікавы мастак Міхаіл Мацвеевіч Філіповіч. Яго імя неадрыўнае ад мастацкага жыцця Мінска тых гадоў, калі закладваліся асновы беларускага савецкага выяўленчага мастацтва.

Глыбокая любоў да яго, удзячная памяць аб ім клічуць аднавіць некаторыя рысы Міхася — так любоўна звалі яго сябры і таварышы, сярод якіх першае месца займаў Іван Восіпавіч Ахрэмчык.

Калі цяпер я прыязджаю ў Мінск і хаджу па вуліцах, якія так змяніліся, памяць ажыўляе зусім іншы пейзаж. І я не магу зразумець, не магу дараваць сабе, чаму так мала, амаль зусім не маляваў і не пісаў яго...

МІНСК У 1925 ГОДЗЕ. На вуліцах яшчэ конка. У цэнтры гараць ацэтыленавыя ліхтары, а на ўскраіне мала і газавых. У горадзе шмат мастакоў. Адны выкладаюць у школах. Другія даюць урокі малявання дома. Найбольш актыўныя асвойваюць зусім новую прафесію — «кіраўнік гуртка выяўленчага мастацтва ў клубе».

А я ў гэты час — вучань Якава Маркавіча Кругера. Я поўны павагі да майстра, які вучыўся ў Парыжы. Але сярод вучняў Якава Маркавіча бунт і хваляванне. Стары яўна адстаў ад жыцця. Ён дабрадушна-індыферэнтны да ўсяго, што робяць яго падапечныя. У вучняў ствараецца ўражанне, што вучыць ён павінен «больш актыўна», бліжэй да жыцця, якое кіпіць і змяняецца на вачах.

Асеннім днём я, чатырнаццацігадовы хлапчук, спыняюся на адной з мінскіх вуліц перад незвычайнай афішай:

«Свабодная акадэмія М. М. Філіповіча. Навучанне малюнку, жывапісу, пластычнай анатоміі, перспектыве, кампазіцыі, маляванню па памяці, кампаноўцы дэкаратыўных насценных роспісаў, жывапісу на тканіне, фрэсцы і скульптуры».

Размяшчаецца «свабодная акадэмія» ў памяшканні былога рэальнага вучылішча на Захар'еўскай вуліцы. Цэны за навучанне «памяркоўныя». Плата наперад. Неабходнымі матэрыяламі і нагляднымі дапаможнікамі навучэнцы «па меры магчымасці будуць забяспечвацца» — так сцвярджала афіша.

Цвёрда вырашыўшы стаць слухачом «свабоднай акадэміі», я пачаў рыхтавацца да непрыемнай размовы з бацькам наконт платы, хаця і «памяркоўнай».

Здарылася так, што я ўбачыў «прафесара» значна раней, чым стаў яго вучнем.

У ГОРАДЗЕ КІПЕЛА «інтэлектуальная вайна». Гэта было тыпова для рамантычнага, змястоўнага часу першых паслярэвалюцыйных гадоў. Побач з афішамі тэатраў і канцэртаў, усялякіх атракцыёнаў і нават кіно можна было на мінскіх вуліцах прачытаць і такое:

«Мастак з Масквы Шабль-Табулевіч прачытае ў памяшканні Камернага тэатра лекцыю: «Канец буржуазнага жывапісу». Тэзісы: Выраджэнне перасоўніцтва; Свет мастацтва; Маркізы і чырвонаармейцы; Сезан і Ван-Гог — вестуны новага мастацтва».

У аб'яве адзначалася асобна: «Чырвонаармейцам скідка. Зала ацяпляецца, але распранацца не абавязкова».

Дзіўная справа! У той час, як выставачныя залы былі пустыя (на выстаўках Маневіча і Малевіча я быў ледзь не адзіным наведвальнікам), залы дыспутаў аб мастацтве былі перапоўнены. Яблыку не было дзе ўпасці і ў зале «Камернага тэатра» на Саборнай плошчы насупраць неіснуючай цяпер вежы з гадзіннікам гарадской думы.

Не памятаю, пра што гаварыў барадаты Шабль-Табулевіч. Я проста няздольны быў зразумець, аб чым гаворка. На сцэне стаяла велізарнае палатно на мальберце з

ГОСЦІ МІНСКА

# ПЕСНІ ЗАСТАЛІСЯ З НАМІ

**Гэтаму хору споўнілася нядаўна дзесяць гадоў. Ён адзін з самых маладых, але тым не менш славутых творчых калектываў Балгарыі. Песні ў выкананні дзвюхсот дзяўчынак гучалі ў розных краінах Еўропы — Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Італіі...**

**Нашу краіну наведаў упершыню хор два гады назад, а Мінск—надоечы, на тым тыдні...**

Кіруе ансамблем Захар Меднікараў — заслужаны артыст Балгарскай Народнай Рэспублікі. Рэпертуар юныя балгары прывезлі вельмі разнастайны: даўнія і сучасныя народныя песні, творы класікаў і сучасных кампазітараў. Завяршаецца выступленне хору, як правіла, выкананнем песень савецкіх аўтараў.

Выканаўчым майстэрствам дзяўчынак нельга не захапляцца. Кожны нумар мае сваё хараство, свой каларыт. Дарэчы, не выпадкова хор узнагароджаны ордэнам Кірылы і Мяфодзія. Гэта высокая адзнака.

— Нам вельмі прыемна выступаць перад жыхарамі беларускай сталіцы, — гаворыць Захар Меднікараў. — Мы многа чулі пра ваш народ, пра гераічны подзвіг партызан і падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Ведаем, што сярод воінаў, якія вызвалялі Балгарыю, нямала было беларусаў. І ў пасляваенныя часы нашы сувязі мацнеюць у розных галінах. Вось і наш прыезд — адно з праяўленняў братэрства і садружнасці.

— Мы зачараваны хараством Мінска, — падтрымлівае нашу размову намеснік старшыні гарадскога Савета горада Талбухіна, радзімы юнацкага хору, Кацюша Стойчава. — Нашы гастролі ў Беларусі працягваюцца. Хор выступаў у Маладзечна, выступіць таксама ў Гомелі. Самы глыбокі след у нашых сэрцах пакінулі сустрэчы з мінчанамі. І за гэта вялікае ім дзякуй!

Шмат чаго можна расказаць пра дзіцячы хор з горада Талбухіна. Аднак гаварыць пра тое, як яны спяваюць, значыць гаварыць пра музыку. А музыку трэба слухаць... І тыя з мінчан, каму пашчасціла наведаць канцэрт, ніколі не забудуць яркіх уражанняў і захаплення мелодыямі, прывезенымі ад балканскіх стром.

В. ЛЕСЦЕР.

На здымках — удзельнікі хору і заслужаны артыст БНР Захар Меднікараў.

Фота Г. КОЛЕВА.

# СТАРОНКІ

супрэматысцкай карцінай, выкананай лектарам. А сам лектар выліваў «музыку слоў»: Пікаса, Сезан, Ван-Гог, Гаген, Бенуа, Дабужынскі... Імёны — гучныя і часта чутыя ўжо ў той час — зачароўвалі, як заклінанні шамана. Ля сцяны стаяў стэнд з малюсенькімі (відаць, вырванымі з кніг) рэпрадукцыямі з карцін мастакоў, якія ўпаміналіся. Аўдыторыя — чырвонаармей ц ы, моладзь у палінялых студэнцкіх і гімназічных шапках — успрымала ўсё здзіўляюча бурна. Тытунёвы дым стаяў каромыслам.

Раптам, сярод даволі манатоннага расказу лектара, ускочыў з месца чалавек у гімнасцёрцы і незвычайна жвава, ярка, сакавіта, з палемічным талентам і культурай сцёр дакладчыка ў парашок...

У зале ўзняўся незвычайны шум. Якіясьці людзі паўскоквалі з месц размахваючы кулакамі...

У гэты момант у яшчэ адносна свабодным праходзе з'явілася згорбленая, але высокая фігура. Бледны, земляністы твар, запалыя шчокі, чорныя, бліскучыя і прамыя патлы звісалі з-пад кепкі-аладкі, якая цудам трымалася на патыліцы. Гэты чалавек заявіў, што з пачуццём пратэсту пакідае залу. Шырока пракрочыўшы па праходзе амаль па нагах гледачоў, ён праз мінуту, як ні ў чым не бывала, вярнуўся!.. Я зразумеў гэта, як ледзь не абавязковы рытуал падобных дыспутаў.

У гэтым цыганскага выгляду чалавеку, які пратэставаў і потым вярнуўся ў залу, запаміналася дзіўнае спалучэнне артыстызму і вытанчанасці з нейкай неахайнасцю. Пінжак матляўся на хударлявым целе, валасы касмачамі падалі на лоб, закрывалі шчаку...

**Я**КОЕ Ж БЫЛО маё здзіўленне, калі назаўтра раніцай, з'явіўшыся па адрасе, указаным у афішы «свабоднай акадэміі», я ўбачыў, што «пратэстантам» на дыспуце быў не хто іншы, як сам «мэтр».

Красамоўнасць, як відаць, не была асноўнай прычынай нешматслоўнасці Міхаіла Мацвеевіча (а гэта і быў Філіповіч). У размове ён часцей за ўсё абыходзіўся лаканічнымі заўвагамі. Ніколі не хваліў, не лаяў, не паказваў сам, не выпраўляў, што так любяць некаторыя выкладчыкі.

Сярод шматлікіх «акадэмістаў» я знайшоў шмат маладых, самаўпэўненых пачаткоўцаў, з якімі быў знаёмы па занятках у Якава Кругера. Яны прыйшлі не столькі вучыцца, колькі пацікавіцца, бо лічылі сябе амаль «гатовымі» мастакамі. У халодным пакоі было вельмі светла. Велізарныя заснежаныя дрэвы архірэйскага саду, які віднеўся цераз вуліцу, не закрывалі святла. Да незадавальнення прысутных Філіповіч прапанаваў напачатку намаляваць вугалем просты, акуратна склеены з белага кардону вялікі куб. Раздаўшы ўсім па вялікім кавалку паперы, ён сеў збоку і, злёгку прыкрыўшы цяжкімі вейкамі карычнева-чорныя вочы, скрыжаваў рукі і стаў чакаць.

Не ўтаю: і я спачатку быў крыху зняважаны такім «простым» заданнем. Усе мы лічылі сябе даволі шматвопытнымі. На здзіўленне ўсіх, намаляваць куб так, каб ён не валіўся набок, а яго грані не былі сціснуты і ён трывала стаяў бы на плоскасці стала,—не здолеў ніхто.

Філіповіч, усміхаючыся адным кутком вуснаў, прагаварыў:

— Вось так, сябры. Цяпер вы пераканаліся, што нічога не ўмееце, што трэба пачынаць з азоў...

На сценах віселі работы Міхаіла Мацвеевіча—партрэты яго сяброў, мастакоў, акцёраў, родных. Напісаныя ярка, з вялікаю ўвагаю да асобы яны здаваліся незвычайна квяцістымі. Нам хацелася таксама гэтак пісаць. Але Міхаіл Мацвеевіч упарта ўтрымліваў нас на геаметрычных фігурах. Куб змянілі прызма, конус...

**Ф**ІЛІПОВІЧ БЫЎ цікаваю натураю. Яго захопленасць праяўлялася не ў размовах, а за мальбертам.

Неяк пасля таго, як «акадэмія» распалася, я сустрэў яго на вуліцы каля «Архірэйскага дома». Там тады адкрываўся музей. І Міхаіл Мацвеевіч з захапленнем гаварыў мне, што піша пано для краязнаўчага аддзела. Запрасіў зайсці зірнуць.

Бязмерна шкада, што выдатныя пано Філіповіча, хутчэй за ўсё, не захаваліся. Было штосьці велічнае ў напісаных ім фігурах беларускіх сялян і сялянак, занятых сваёй штодзённаю працай. У прасценках, там, дзе некалі былі фігуры архангелаў і серафімаў, Міхась напісаў ганчара з гаршком, селяніна, які адбівае касу, сялянку са збанам малака. Напісаныя на грубым сялянскім суровым палатне, амаль на дзярузе, незвычайна насычаныя па колеры і суровыя па характарыстыцы, яны нічога агульнага не мелі з тымі, на мой погляд, малахарактэрнымі рэчамі Філіповіча, якія захаваліся і якія мне давялося зусім нядаўна ўбачыць яшчэ раз у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

На падлозе стаялі гаршкі з фарбамі. На сцяне напісаны мастаком ганчар завіхаўся ля свайго станка. Філіповіч, крыху недарэчны ў кепцы-аладцы, размахваючы рукамі і крысамі пінжака, ускараскаўся на ўсходкі і пачаў працаваць, забыўшы пра мяне.

Міхаіл Мацвеевіч добра ведаў і любіў беларускую народную творчасць і тонка ўводзіў яе элемент ў свае работы. Але ў іх нічога не было ад прымітыўна зразуметых «нацыянальных традыцый», калі народная творчасць ў сучасных палотнах проста «цытуецца».

Кола творчых інтарэсаў Філіповіча было незвычайна шырокае. Але я пішу толькі пра адзін бок яго таленту—пра тое, чаму быў сведкам.

**М**ІНУЛА НЕКАЛЬКІ гадоў, і я ужо студэнт ВХУТЭМАСа, прыехаўшы на лета ў Мінск, сустрэў Міхаіла Мацвеевіча даволі змораным і змучаным. Ён запрасіў мяне да сябе. Гэта мяне здзівіла. Да гэтага я ніколі ў яго не быў.

— Я цяпер у маіх старых...

Малюсенькі домік у тры акны, які ўрос «па плечы» ў зямлю дзесьці недалёка ад Ваенных могілак. Нават на гэтай ускраіне ён выдзяляўся сваім паўцацачным памерам. Ля доміка аказаўся цудоўны дворык і сад. У садзе градкі, шмат сланечнікаў, мальваў Майстэрня была ў хляўчуку. Святло пранікала праз разабраны ў адным кутку дах і сапраўды «па-рэмбрантаўску» залаціла ахапкі саломы і сена, якіясьці хатнія рэчы.

Філіповіч паказаў некалькі партрэтаў. Яны былі напісаны пад моцным уплывам Рэмбранта. Гэта мяне тады не здзівіла. Здзівіла і па гэты час здзіўляе іншае: Філіповіч пераходзіў свабодна ад аднаго захаплення да другога, але заўсёды быў шчыры і пераканаца ў правільнасці сваіх творчых пазіцый. Бацькі мастака, калі я іх убачыў, дзіўна напаміналі рэмбрантаўскія «Партрэт маці» і «Партрэт брата». Стары з такой жа не то кароткай, не то запушчанай бародкаю. Старая з такім жа сумным выглядам. Аднак абодва былі тыповымі беларусамі. Філіповіч вельмі ярка выявіў гэта сваёй новай, светлаценевай манераю пісьма.

**Я** СУСТРАКАЎСЯ з ім яшчэ недзе ў канцы трыццатых гадоў у Маскве. Аднойчы сядзелі мы з ім на Нікіцкім бульвары, ля помніка Ціміразеву. Міма праходзілі парачкі закаханых, прадаўшчыцы кветак. Быў цёплы вечар...

Думалася аб тым, што гэты таленавіты, значны мастак, які стварыў сабе у Мінску трывалае, цалкам забяспечанае становішча, паважаны майстар, чые творы экспануюцца ў музеях, раптам пакінуў усё і паехаў вучыцца ў Маскву, у ВХУТЭМАС. Якая сіла творчага абнаўлення, прага шуканняў, прага новых шляхоў, новых магчымасцей у мастацтве жыла у ім!..

Я сустракаў нямала мастакоў, пісьменнікаў, акцёраў, па-свойму выдатных. Але вельмі нямногія былі здольны адмовіцца ад набытага вопыту, прызнанага майстэрства, каб зрабіць крок у нязведанае, у пошук новага, крок, які здолеў зрабіць Філіповіч.

Усведамленне, што былі ў беларускім савецкім жывапісе такія майстры, як Філіповіч, памагае сёння тварыць і разумець таямніцу мастацтва, грамадзянскага, наватарскага, таго, якому мы ўсе ў сілу сваіх магчымасцей служым.

Масква.

# ЛЯ ВЫТОКАЎ ДАГІСТАРЫЧНАГА ЖЫВАПІСУ

**К**АЛІ МЫ ГАВОРЫМ аб мастацтве, звычайна маем на ўвазе творчае, наватарскае натхненне, пошук яшчэ не пракладзеных сцежак. А між тым у дагістарычных падземных пячорах Францыі можна ўбачыць узоры ўсіх эстэтычных напрамкаў, усіх мастацкіх школ, усіх магчымых шуканняў у галіне «сучаснага» і ў той жа час старажытнага мастацтва, якому сама меней пятнаццаць тысяч гадоў...

У маляўнічай даліне ракі Везер (дэпартамент Дардонь), на абодвух яе берагах знаходзяцца 34 падземныя пячоры, роспіс якіх сведчыць аб незвычайным росквіце першабытнай мастацкай творчасці.

У пячоры Камбарэль на цвёрдым вапняку сцен крэменем высечана 150 адлюстраванняў жывёл. Першабытны мастак у дасканаласці авалодаў тэхнікай майстэрства, яго малюнак вызначаецца чоткасцю, упэўненасцю штрыха.

У другой пячоры, ля ўваходу ў даліну ракі Бэн, сцены ўпрыгожаны яркім роспісам, на якім 80 адлюстраванняў бізонаў чаргуюцца з 40 адлюстраваннямі коней, мамантаў, насарогаў. Карыстаючыся эфектамі кантрасту або гармоніі фарбаў, дагістарычны мастак цалкам вычарпаў тут магчымасці сваёй прымітыўнай палітры.

У так званай «Цясніне пекла» знаходзіцца пячора Рыбы; на столі пячоры рэльефнае адлюстраванне велізарнага шчупака.

На правым беразе ракі Гранд-Бен, у размешчанай непадалёк пячоры можна ўбачыць выкананы гарэльефам фрыз, які нагадвае фрыз Парфенона: поўныя жыцця і руху коні праходзяць перад здзіўленым позіркам наведвальніка, паступова змяншаючыся ў памерах, што стварае незабыўнае ўражанне перспектывы.

У 17 кіламетрах на поўнач ад вышэй апісаных пячор знаходзіцца пячора Руфіньяк — пячора «ста мамантаў». Яны ідуць цяжкім поступам адзін за другім, губляючыся ў цемры пячоры.

Я:( дасягалі першабытныя мастакі такіх вяршынь майстэрства? Каб азнаёміцца з яго зачаткамі, трэба наведаць пячору Бара-Бао, роспіс якой гаворыць аб першых, няўмелых яшчэ пошуках сродкаў выразнасці. Тут няма ні ясна прадуманай задумы, ні чоткага малюнка. Форма ледзь вызначаецца з матэрыі. Мастак вучыцца майстэрству, чэрпаючы натхненне ў глыбіні стагоддзяў.

Рэзка адрозніваецца ад гэтага сапраўды прымітыўнага мастацтва роспіс славутай пячоры Ніо, паблізу Тараскона-на-Арыежы. У канцы доўгага калідора ў 800 метраў адкрываецца вялікае памяшканне — «Чорная зала», упрыгожаная малюнкамі велізарных бізонаў, баранаў і коней, якія скачуць. На думку спецыялістаў, пячора Ніо можа па мастацкаму ўзроўню роспісу супернічаць з пячорай Ласко. Аднак тут дасканаласць арнаментацыі нялёгка дасталася мастаку. Побач з завершанымі творамі відаць накіды, эскізы, эцюды. На падлозе пад фрэскай выразна відаць адбіткі ног мастака — аўтара гэтых шэдэўраў. Ніо ўяўляе сабой унікальнае сховішча мінулага і яго першабытнага мастацтва.

Непадалёк знаходзіцца пячора Марсула. Своеасаблівасць яе роспісу ў тым, што за 12000 гадоў да з'яўлення мастакоў-пуантылістаў дагістарычны майстар адлюстраваў у ёй жывёл з дапамогай маленечкіх каляровых кропак. Крыху далей, у пячоры Гаргас можна ўбачыць узоры першабытнай «фантастычнай школы». На сценах відаць 130 «прывідных рук»— адбіткаў рук чалавека на сырой сцяне пячоры, пасыпаных потым фарбай па сучаснаму метаду трафарэта. Гэтыя рукі выклікаюць жах: на некаторых няма адной або некалькіх фалангаў. Відаць, гаворка ідзе пра нейкі фанатычны абрад, які кануў у далёкае мінулае.

У маляўнічай цясніне ракі Селе (дэпартамент Лот) знаходзіцца пячора-храм Пек Мерль. На сцяне мастак зрабіў прымітыўнае адлюстраванне каня. Пазней другі мастак дадаў 10 каляровых кропак над грывай і некалькі кропак пад грывай. Дзякуючы гэтым дадатковым штрыхам вялікага майстра, першабытны роспіс і рэльеф скалы зліліся ў адно. Ігру ліній, ценяў, фарбаў можна зблізіць з пошукамі сучаснага кінетычнага мастацтва, нягледзячы на тое, што паміж гэтымі дзвюма праявамі мастацкай творчасці прайшло пятнаццаць тысяч гадоў.

«Навіны ЮНЕСКО»

# СТАТУЭТКІ ТАНАГРЫ

**Н**А ПРАЦЯГУ прыкладна шасці стагоддзяў — з VIII па II стагоддзе да нашай эры — на велізарнай тэрыторыі, якая ахоплівае не толькі кантынентальную Грэцыю, але і астравы Эгейскага мора, берагі Анатоліі, сярэдземнамор'я, Кірэнаікі, Сіцыліі, Паўднёвай Італіі, Паўночнага Прычарнамор'я, існавалі шматлікія майстэрні, у якіх выраблялія гліняныя статуэткі.

Аднак вытворчасць статуэтак дасягнула росквіту менавіта ў Эладзе.

Пачынаючы з класічнай эпохі — V ст. да нашай эры, тэракотавыя статуэткі, як і невялікія бронзавыя фігуркі нясуць у шматлікія ачагі жыхароў Элады творчасць, навеяную вялікімі творамі праслаўленых скульптараў — Фідзія, Лізіпа і, галоўным чынам, Праксітэля. З прычыны рымскага заваявання, пачынаючы з першага стагоддзя да нашай эры, вытворчасць статуэтак прыходзіць у заняпад. Выключэнне складаюць майстэрні Малой Азіі, якія аж да II стагоддзя нашай эры вызначаліся высакаякаснымі вырабамі.

З заняпадам грэчаскай цывілізацыі гліняныя статуэткі былі забыты. У 1850 годзе археолагі выявілі разрозненыя экземпляры пасрэднай якасці ў Італіі, потым у Кірэнаіцы і некалькіх пунктах Сярэдземнамор'я.

У 1870 годзе было зроблена сенсацыйнае адкрыццё: у час сельскагаспадарчых работ у Танагры, невялікай вёсцы Беоціі, прыкладна за 600 км на паўночны захад ад Афін, сяляне знайшлі статуэткі незвычайнай прыгажосці. Тэрмін «Танагра» абляцеў увесь свет.

Адны з іх адлюстроўваюць багоў Алімпа—Гермеса, Кібелу, Дземетру, Афрадзіту, Эроса, Дзіоніса, крылатых «ніке» і «геніяў»; другія — маладых жанчын, задрапіраваных у тканіны. Апошнія з'яўляюцца скульптурнымі партрэтамі «модніц» антычнага свету. Ёсць і мужчынскія статуэткі (але іх менш), потым групавыя статуэткі, коннікі, запрэжаныя калясніцы, бытавыя сцэнкі, карыкатуры, жывёлы, маскі, дзіцячыя цацкі. Магчыма, што першапачаткова гліняныя статуэткі замянялі або, па крайняй меры, адлюстроўвалі чалавечыя ахвярапрынашэнні, якія рабіліся іншы раз пры пахаванні мёртвых. Побач з гэтым, на думку спецыялістаў, старажытныя грэкі прыносілі статуэткі ў дарунак багам або ў храмах, або ў свяцілішчах прыватных дамоў, дзе яны не аднойчы знаходзіліся археолагамі.

Статуэткі Танагры, як і падобныя ім вырабы, што выйшлі з майстэрняў Афін, Мірыны, Смірны, цікавыя не толькі для вузкіх спецыялістаў, а і для ўсіх тых, хто заглядвае ў далёкае мінулае Грэцыі. Яны не толькі адлюстроўваюць у мініяцюры неўміручае мастацтва скульптараў Элады, але і звычаі, вобраз жыцця, мысленне, вераванні народа, якія заклаў асновы заходнееўрапейскай культуры два тысячагоддзі назад.

«Навіны ЮНЕСКО»

Начальнік міліцыі Аляксей Іванавіч Рулёў пакруціў сваю запыленую фуражку ды так і не рашыўся нікуды яе пачапіць, бо ў хаце было чыста і светла.

— Прыехалі мы да цябе, Зіневіч, не дзеля мацыёну якога-небудзь, а па справе досыць важнай, — пачаў Рулёў без доўгіх уступаў, прысаджваючыся на прапанаванае гаспадаром крэсла і кладучы фуражку на калені. — Трэба тут за самагоншчыкамі паглядзець.

— Што ж, можна. Толькі скажу я вам, таварыш маёр, дарэмна час змарнуем. Работу я адпаведную правёў, ды і новы ўказ іх здарава сцебануў, прыціхлі.

Інспектар Сямён Зіневіч працаваў каля года на гэтым участку, а парадак у наваколлі адчуваўся. Цвёрды хлопец быў Сямён, да таго ж у людзях, як ён сам лічыў, разбіраўся.

— Дык кажаш, не вараць у цябе зелля гэтага?

— Пазбягаюць, таварыш маёр. Грошы, яны на дарозе не валяюцца. Штраф — не лекцыя на тэмы выхавання... Давайце, я пакладу фуражку.

Аляксей Іванавіч аддаў яе Зіневічу. Той палажыў фуражку на верхнюю дошчачку вешалкі. Казырок стукнуў па вешалцы — паплыло лёгкае воблачка пылу.

— Прысушыла сёлета, — заўважыў Аляксей Іванавіч.

— Гарачая пара выдалася, — згадзіўся Зіневіч. — У нас тут крамнік ёсць, ён жа і грыбавар, мужык, што трэба, каб штангіст — у цяжкавагавікі пайшоў бы. Дык ён за лета на восем кіло схуднеў. Казаў, што з ім і на спецлячэнні такога не здаралася.

Пачуўшы пра грыбавара, начальнік міліцыі ўстрапянуўся.

— Дарэчы, грыбы ў вашым лесе ёсць?

— Якія там грыбы! — махнуў рукой Зіневіч. — Трава расці не хоча... Хаця пастойце: ад суседа чуў, што ўчора ён дымок над грыбаварняй бачыў. Пэўна, крамнік наш бочку-другую зварыць сабраўся.

— Мо наведаемся, паглядзім? — загарэўся Аляксей Іванавіч, заўзяты грыбнік.

— Чаму ж не, наведаемся.

На міліцэйскім газіку пад'ехалі да грыбаварні, абгароджанай дабротным парканам з шалёўкі. Зіневіч штурхнуў брамку — не адчыняецца.

— Чаго зашчапіўся? — падзівіўся і штурхнуў ужо мацней.

За парканам пачуліся крокі, брамка адчынілася, і паказаўся грыбавар. Убачыўшы людзей у міліцэйскай форме, ён збялеў і нават зменшыўся ў памерах, быццам шар, з якога выпусцілі паветра.

— Што ты, Кузьміч, стаіш, як усё адно паралізавала цябе? — няўцямна запытаў Зіневіч. — Вось хочуць грыбкі паглядзець.

Кроў кінулася ў твар Кузьмічу, вочы яго засвяціліся, як у тапельца, які нарэшце ўчапіўся за выратавальны круг. Ён адчыніў шырока дзверы і ўсе зайшлі за агароджу.

...На нешырокіх лаўках з бар'ерчыкамі ляжала некалькі купак счарнелых падбярозавікаў. Тут жа стаяла няпоўная бочка звараных грыбоў, было параскідана і шмат пустых бочак. Над шыфернай павеццю са сценкамі з няшчыльна прыбітых жэрдак віўся блакітны дымок.




Аляксей Іванавіч варухнуў адну купку грыбоў, заглянуў у бочку.

— Цікава паглядзець, як вы іх варыце, — прагаварыў ён і накіраваўся да павеці.

— Там, гэтае самае, дымна... Брудна... Нічога такога, — заспяшаўся грыбавар, але, убачыўшы, што маёр не звяртае ўвагі на яго словы, зноў збялеў і цяжка асеў на лаву проста на купку грыбоў.

За сценкай з жэрдак было нейкі час ціха, потым данеслася гучнае:

— Та-а-к!.. А ну хадзіце сюды, падзівіцеся на сакрэт вытворчасці.

Зіневіч і сержант, вадзіцель «газіка», зайшлі пад павець. Там цягнулася доўгая печ з гнёздамі для чатырох катлоў. Два месцы былі заняты: у адным катле варылася крыху грыбоў, а над другім, меншым, катлом здрадліва паблісквала медзь змеевіка, які цягнуўся да драўлянага карыта з вадой — ахаладжальніка. Непадалёк ад печы тулілася дзесяцілітровая бутэлька самагонкі, якая ўспыхвала блакітнымі агнямі ў водблісках полымя з печы.

— Значыць, не вараць зелля, а? — з іроніяй у голасе звярнуўся начальнік міліцыі да Зіневіча.

— Хто б мог падумаць, таварыш маёр, — аслупянеў лейтэнант. — Можна сказаць, пад носам... Мімікрыя.

— Што, што?!

— Мімікрыя, таварыш маёр. Здольнасць некаторых арганізмаў прымаць ахоўную афарбоўку ці форму.

— От што, лейтэнант, зараз складзем акт, і каб больш такой «мімікрыі» мне не пападалася. Зразумела?

— Зразумела, таварыш маёр!

Зіневіч палез у кішэню па ручку.

## ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

Баласт (спарт.)—колькасць балаў, набраных у змаганні.

Барбос — гаспадар бару.

Валідол (спарт.)—прыём самба.

Вясёлая трасянка—ліхаманка са смехам.

Галун (спарт.)—нападаючы ў футболе.

Гусляр—гусіны пастух.

Забабон (жарг.) — донжуан.

Кавун—ахвотнік да кавы.

Набалдашнік — галаўны ўбор дурня.

Рысак (заал.)—самец рысі.

Самавар—халасцяк.

Сцягно (жарг.)—злодзей.

**М. МІРАНОВІЧ.**

## З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ

— Мая жонка прыносіць мне столькі непрыемнасцей! Уяві сабе, завяла прывычку — класціся кожны дзень у тры гадзіны ночы.

— Немагчыма!.. А што яна робіць да гэтага часу?

— Чакае мяне.

●

— Ваша сямейнае становішча?

— Невыноснае.

●

— Сын мой, не існуе такіх цяжкасцей, якія б нельга было пераадолець настойлівасцю і ўпартасцю.

— Ты так думаеш, тата? Тады паспрабуй выціснуць зубную пасту з цюбіка, а потым уціснуць яе зноў у цюбік.

●

— Мой тата заўсёды ходзіць без шапкі.

— Ну і што? Мой тата заўсёды ходзіць без валасоў!

●

— Ты звярнула ўвагу на тую брунетку ў трамваі?

— Тую, што з зялёнымі вачамі, у чорным касцюме, з чырвонай сумачкай і ў чырвоных туфлях?

— Ну!

— Падумаць толькі, я на яе нават не зірнула.

**Павел САКОВІЧ**

## ФРАЗЫ

Не спяшайся станавіцца ў позу—яна можа аказацца нязручнай.

□

Калі скажаш «а», не спяшайся вымаўляць «б», — ці не лепш адразу перайсці да «я»...

□

Задуменны чалавек—гэта той, хто ўвесь час разважае над тым, аб чым бы падумаць.

□

Спачатку ісціну ўпарта шукалі ў віне, потым пачалася вялікая спрэчка, у выніку якой нарадзілася такая маленькая ісціна, што яе ніхто не заўважыў.

□

«Дзе ж справядлівасць,—крыўдаваў ляснік,—чым больш шчыруеш у лесе, тым больш шышак валіцца на тваю галаву!»

□

Таксі працавала бездакорна, а шафёр — з перапоямі.

**Марцін КОЎЗКІ**

## МІМАХОДЗЬ

□ *Смех нішчыць. Камедыя гэта ці драма?*

□ *Задача на дробы: колькі нестае да поўнага інтэлігента паўінтэлігенту з чвэрткаю?*

□ *Падглядаючы ў замочную шчыліну, не мог пазбавіцца адчування, што нехта і за ім сочыць гэтаксама.*

□ *— Шматбаковасць свету і ў маёй аднабаковасці, — разважае камбала.*

□ *Баязлівец: памёр на шыбеніцы сваёю смерцю.*

□ *Апошняя ананімка: ад групы таварышаў.*

□ *Вартасць: не ўмее масціць, але ўмее падмошчваць.*

□ *Скардзіўся: каб выкапаць яму іншаму, капаць трэба прорву.*

□ *Паралельныя сыходзяцца... Кажуць, з гэтай плёткі пайшла новая геаметрыя.*

□ *Велічыню пустога месца вызначае акружэнне.*

□ *З галіны парадоксаў: адкуль бяруцца бязмозглыя сярод безгаловых?*

□ *Няўжо кожны сусвет мае той свет?*

□ *Рабіце хібы без памылак!*

□ *Барацьба з перагібамі застаецца барацьбой... з перагібамі.*

**МЕГАН («Шпількі»)**

## ЯК ЗВОЛІЛІ ПАНА СКАБКУ

— Зайдзіце, калі ласка, да мяне ў кабінет, — сказаў дырэктар, убачыўшы пана Скабку ў калідоры.

Пан Скабка ўвайшоў, злёгку хістаючыся, і прываліўся да стала.

На дырэктара гэта зрабіла не вельмі прыемнае ўражанне. Ён пакасіўся на пана Скабку і сказаў:

— Вось ужо некалькі месяцаў вы ўвільваеце ад працы, і не першы раз я вымушаны гутарыць з вамі на гэту тэму.

— Сапраўды, — згадзіўся пан Скабка.

— Мы клапоцімся пра нашых людзей, — працягваў дырэктар, — і не так лёгка адмаўляемся ад супрацоўніка, бо разумеем, што ў кожнага могуць быць хвіліны слабасці, кожны можа спатыкнуцца. Калектыў працягнуў вам руку, а пані Бараноўская і пан Капыта ад грамадскіх арганізацый спрабавалі абудзіць у вас сумленне і прафесійны гонар.

Пан Скабка ікнуў.

— Папрашу без глупстваў! — раззлаваўся дырэктар. — Вы спяваеце на рабоце недарэчныя песенькі і перакульваеце мэблю, але гэтым вы нікога не ашукаеце.

Пан Скабка пачырванеў.

— Я лічыў вас паважным чалавекам і таму даў вам магчымасць выправіцца, — гаварыў далей дырэктар. — А вы ўжо некалькі месяцаў сістэматычна цвярозы на рабоце. Цвярозым вы можаце быць дома, калі вам так падабаецца, а мы не можам цярпець цынічнага нахабства і занядбання абавязкаў.

— Я трапіў у благую кампанію, — ціха вымавіў пан Скабка.

— Яно і відаць, — пацвердзіў дырэктар. — Але ў вас быў час гэта абдумаць і парваць знаёмствы, якія перашкаджаюць працы. Вы аднак гэтага не зрабілі, што дыскрэдытуе вас як спецыяліста і чалавека. На цвярозы розум вы прызнаяце мае довады, а вы цвярозенькі ўжо многа месяцаў. Гэта ўсё, што я хацеў вам сказаць.

Так пан Скабка страціў пасаду дэгустатара на вінзаводзе.

Пераклаў з польскай А. МАЖЭЙКА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19. бухгалтэрыі — 32-15-87.







Індэкс 63856 АТ 18604